№10(31)
2001г.
кастрычнік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

**Барысаўшчына ў фалерыстыцы**

Чытайце на стар. 8-9

## Незаслужана забыты маёнтак у вёсцы Дымкі


Чытайце на стар. 11



## Дзень маці

На працягу тыдня ў горадзе і раёне прайшоў цэлы шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных Дню маці. Канцэрты і выставы, ранішнікі і святочныя вечарыны, спартыўныя мерапрыемствы і набажэнствы – усё ў гэты тыдзень рабілася дзеля таго, каб уславіць жанчыну, якая выканала сваё галоўнае прызначэнне ў жыцці – нарадзіла і выхавала новых жыхароў Зямлі. Жанчын чакалі ў ЗАГСе, каб даць усебаковыя кансультацы па пытаннях сям'і, у вайсковых частках, дзе служаць сыны, у выканкамах і ва ўсіх садках і школах Барысаўшчыны.

Кінулася ў вочы тое, што ў раёне адбылося менш, чым у горадзе гучных і ўрачыстых мерапрыемстваў, затое праведзена больш розных карысных акцый у дапа-могу кабетам і сем'ям. У іх ліку – акцыя "Рука дапамогі", якая была працягнута адзінокім татам, якія выхоўваюць непаўналетніх дзетак. Не забыліся ў райвыканкаме дапамагчы адзінокім і састарэлым жанчынам, а таксама павіншаваць кабет, якія дасягнулі 90- і 100-гадовага ўзросту.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## На сухоты ў вёсцы хварэюць усё часцей

3 кастрычніка адбылася 14-ая сесія райсавета дэпутатаў 23 склікання, на якой намеснік старшыні райвыканкама Герасімовіч С.М. выступая з дакладам "Аб стане здароўя насельніцтва і прагнозе развіцця сістэмы аховы здароўя ў раёне".

Сетка аховы здароўя ў Барысаўскім раёне складаецца з Цэнтральнай раённай бальніцы, сямі сельскіх бальніцаў, шасці амбулаторый і 38 фельчарска-акушэрскіх пунктаў, дзе працуюць 93 доктары і 387 фельчараў і медсёстраў. Фельчар-акушэр на ФАПе працуе звычайна на паўтары стаўкі шэсць дзён на тыдзень і атрымлівае каля 90 тыс.рублёў. Фактычна, асабліва на далёкіх ад горада ФАПах, медык працуе ў любы час, калі спатрэбіцца дапамога. Існуе нястача кадраў, асабліва стаматолагаў.Спецыялісты такога профілю неахвотна едуць на вёску. Асноўнымі праблемамі матэрыяльна-тэхнічнага плану з`яўляецца неабходнасць замены старога абсталявання, будаўніцтва жылля для медперсаналу, рамонт памяшканняў медыцынскіх установаў. На многіх ФАПах рамонт праводзяць самі медыкі.

Непакоіць стан здароўя школьнікаў, 70% з іх не могуць лічыцца поўнасцю здаровымі. Расце алкагалізацыя сельскага насельніцтва. Гэтым, мабыць, тлумачыцца той факт, што смяротнасць мужчын у працаздольным узросце перавышае жаночую ў чатыры з паловай разы. Хаця і кабеты ўсё часцей не грэбуюць кілішкам. З 980 хворых на алкагалізм (якія знаходзяцца на наркалагічным ўліку) – 235 жанчын.На сухоты, спрадвечны спадарожнік няздобраўладкаванага жыцця, у нашым раёне хварэюць таксама ўсё болей.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Адказ атрыманы, пытанні засталіся

***12 кастрычніка газета "Гоман Барысаўшчыны" атрымала адказ з Барысаўскага гарвыканкама за подпісам яго старшыні В.Бургуна на свой зварот, што быў надрукаваны ў жнівеньскім нумары нашай газеты. Як і абяцалі, прыводзім яго цалкам.***

*"Гарвыканкам уважліва разглядзеў прапановы рэдакцыі Вашай газеты ў сувязі з ходам падрыхтоўкі да святкавання 900-годдзя Барысава.*

*Аналіз паказаў, што частка гэтых прапаноў ужо адлюстравана ў запланаваных мерапрыемствах, вядзецца пошук магчымасцей іх выканання, як фінансавых, так і тэхнічных.*

*Спадзяемся, што створаны Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь арганізацыйны камітэт, які ўзначальвае наш зямляк, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Козік Л.П., дапаможа здзейсніць нашы планы і задумкі.*

*Шэраг прапаноў, якія ўзнімае газета (рэгенерацыя знікшых старых будынкаў і манастыра, змяненне фасадаў і дахаў шматпавярховых дамоў, аднаўленне брукаванага пакрыцця вуліц),*

*(Працяг на стар.2)*

## Сустрэча з чытачамі

13 кастрычніка ў Жыцькаве адбылася сустрэча супрацоўнікаў нашай газеты з чытачамі – вучнямі і настаўнікамі тамтэйшай школы. Было распаведзена пра газету, яе творчыя задумкі і дзейнасць. Расповяд ішоў і пра дзейнасць барысаўскага аддзялення Таварыства беларускай мовы, сябрамі якога з'яўляюцца супрацоўнікі рэдакцыі. Былі прадэманстраваны слайдфільмы, прысвечаныя гісторыі і старым помнікам Барысава і Барысаўскага раёна.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

**З 1 лістапада пачынае працаваць карэспандэнцкі пункт нашай газеты**
**у цэнтры Барысава па адрасе:праспект Рэвалюцыі, 33**
**Мы Вас чакаем**
**у аўторак з 15 па 17 гадз., у чацвер: з 10 па 11 гадз.**

*Падпісвайцеся на газету "Гоман Барысаўшчыны"!*

**Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:** на 1 месяц - 120 руб.
**Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:** на 1 месяц - 400 руб.
**Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:** на 1 месяц - 180 руб.
**Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:** на 1 месяц - 500 руб.

# Ад нумара да нумара

**Юбілеі**

*Святочным канцэртам адзначылі ў Мётчанскай сярэдняй школе 70-гадовы юбілей Ніла Гілевіча. Дзеці спявалі і чыталі вершы славутага паэта, які неаднаразова бываў у гасцях у Мядоцкім краі. Вучні школы добра ведаюць паэта асабіста, любяць яго і чакаюць новых сустрэч.*

***

*4 кастрычніка справіў 80 год нараджэння Аляксандр Георгіевіч Герасіменка. Добры, спагадлівы чалавек, вядомы журналіст, ён 16 гадоў узначальваў рэдакцыю газеты "Камуністычная праца" (цяпер "Адзінства").*

**Прызначэнні**

*Барысавец Галаванаў Віктар Рыгоравіч прызначаны Міністрам юстыцыі Рэспублікі Беларусь.*

**Аварыі**

*7 кастрычніка з-за непаладак на электрападстанцыі была спынена работа галоўнай помпавай станцыі горада, што стварыла пагрозу затаплення фекальнымі водамі як самой станцыі, так і тэрыторыі Залінейнага раёна.*

*Агульнымі намаганнямі працаўнікоў "Водаканала", электрасетак і атрада МНС аварыя была зліквідавана за 2 гадзіны.*

**Мода**

*У новым універмазе "Веста" адбыўся паказ восеньскіх мадэляў для дзяцей і моладзі.*

**Конкурсы**

*Барысаўскі гарадскі камітэт БПСМ аб'явіў творчы конкурс на лепшы аўтарскі твор, прысвечаны 900-годдзю Барысава. Узрост удзельнікаў - ад 14 да 35 гадоў. З двух абавязковых твораў адзін павінен быць напісаны пабеларуску.*

***

*Патрыятычны саюз моладзі праводзіць таксама конкурс на лепшы праект рэкламнага шчыта да 900-годдзя горада. Да 29 кастрычніка тыя, хто жадае ўдзельнічаць, павінны прадставіць свой варыянт. Шчытпераможца будзе ўсталяваны ля шашы на ўездзе ў Барысаў.*

**Навабудоўлі**

*Нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю, на Барысаўшчыне вядзецца жыллёвае будаўніцтва. Так, новыя дамы пабудаваны ў калгасе імя Суворава, "Лошніца", у саўгасе "Радуга".*

**Набытак**

*Папяровая фабрыка набыла сучаснае абсталяванне, якое дазваляе вырабляць высакаякасную каляровую ўпакоўку. Калі раней прыгожую абгортку для марожанага "Трыумф" і іншых смачных рэчаў выраблялі за мяжой, то зараз гэта робяць у Барысаве.*

**Дэгустацыі**

*На адбыўшыхся летам міжнародных выставах-дэгустацыях віны Весялоўскага завода "Гайна" і "Чорная дама" атрымалі высокую адзнаку: у Маскве яны ўзнагароджаны залатым і срэбраным медалямі, у Ялце абодва напоі адзначаны "золатам".*

**Аўтагонкі**

*6-7 кастрычніка адбыліся традыцыйныя аўтагонкі памяці Андрэя Шабаліна, у якіх бралі ўдзел экіпажы барысаўскіх каманд гоцей са Смаленскай вобласці. Чэмпіёнам у класе Д-2 стаў барысавец Анатолій Русецкі, у класе Д-3 – барысавец Сяргей Комар. Каманда смалян на агульных выніках была трэцяй.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



*Ідзе рэканструкцыя плошчы ля Васкрасенскага сабора*

## Адбылося ўзнагароджанне

11 кастрычніка ў аблвыканкаме адбылося ўзнагароджанне лепшых працаўнікоў культустаноў Менскай вобласці, прысвечанае Дню работнікаў культуры, ганаровымі граматамі і лістамі падзякі. Ад горада Барысава і Барысаўскага раёна былі ўшанаваны рэжысёр тэатра "Відарыс" У.Буйко і дырэктар Старабарысаўскага Дома культуры З.Царык.

***Служба інфармацыі "ГБ"***



На перакрыжаванні вуліц Гагарына і Горкага аўтамабільныя здарэнні не рэдкасць. Вось і 17 кастрычніка нейкі ўдалы кіроўца скалечыў слуп з пешаходным святлафорам.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Адказ атрыманы, пытанні засталіся

**(Працяг, пачатак на стар. 1)**

*вядома ж, выкананы не будзе, бо патрабуе вялікіх фінансавых укладанняў, якіх няма ў дзяржаўнай казне. Цікавасць выклікае прапанова па рэстаўрацыі ці кансервацыі замчышча XIV стагоддзя, дзе знаходзяцца руіны былой турмы. Добра было б, каб Вы, паважаны рэдактар, разам са сваімі супрацоўнікамі, калектывам і УП "Панацэя", з удзелам моладзі і інтэлігенцыі дапамаглі ачысціць пляцоўку ад смецця і цэглы, зрабіць да яе падыход, каб гэты помнік даўніны захаваць для нашых нашчадкаў.*

*Дарэчы, гарвыканкам будзе ўдзячны кожнаму, хто пажадае прыняць удзел у падрыхтоўцы да свята горада ў любым выглядзе - ці то асабістым удзелам, ці то грашыма.*

*Упэўнены, што толькі ў гэтым выпадку свята, прысвечанае 900-годдзю Барысава, сапраўды будзе ўсеагульным.*

*Старшыня гарвыканкама В.І.Бургун"*

На жаль, атрыманы з гарвыканкама ліст пакінуў пасля сябе болей пытанняў, чым адказаў. У прыватнасці, зусім не зразумелым засталося тое, якія з нашых прапаноў адлюстраваны ў заплаваных мерапрыемствах. Калі тое, што афіцыйна абвяшчалася раней, не з'яўляецца поўным планам падрыхтоўкі да юбілею горада, то калі будзе



Барысаўскі гарадскі выканаўчы камітэт

Борисовский городской исполнительный комитет

абвешчаны поўны план?

Выклікае шкадаванне, што пытанне рэгенерацыі асобных будынкаў, наданне фасадам сучасных будынкаў выглядаў тых дамоў, што былі на іх месцы раней, (гэта не абавязкова азначае перабудову будынкаў і патрабуе нязначных) і аднаўленне брукаванага пакрыцця вуліц "вядома ж выканана не будзе".

Дзіўным, калі не здзеклівым, з'яўляецца прапанова расчысткі супрацоўнікамі рэдакцыі і грамадскасцю замчышча ад смецця і цэглы ў той час, калі яны туды адвозяцца самазваламі (пра тое, што гэта мае месца, наша газета пісала ў мінулым нумары).

Падобна на тое, што шанец адрадзіць старое аблічча нашага горада, які мог быць рэалізаваны да яго 900-годдзя, так і не будзе выкарастаны.

***М.Мацельскі***

# Ад нумара да нумара

**Нядбайнасць**

*Каля 400 вайскоўцаў закранула ўспышка дызентэрыі ў Печах. Вох і нацярпеліся ж хлопцы праз нечую нядбайнасць!*

**Месячнік**

*З 1 кастрычніка па 1 лістапада Барысаўскі аддзел па НС праводзіць месячнік па папярэджанню пажараў і надзвычайных сітуацый і гібелі на іх людзей. Сёлета за 9 месяцаў на Барысаўшчыне здарылася 220 пажараў. На жаль, нягледзячы на месячнік, пажары не сціхлі і ў кастрычніку. За тры тыдні – больш 20 здарэнняў. Але добра што ніводзін чалавек на гэтых пажарах не загінуў.*

**Здарэнні**

*Раніцай 19 кастрычніка на старой магістралі "Берасце – Масква" ў раёне вуліцы імя палка Нармандыя - Нёман на праезджую частку выйшла карова. У гэты час па вуліцы праязджаў Камаз. Для грузавога аўтамабіля ўсё абышлося лёгкімі пашкоджаннямі, чаго нельга сказаць пра карову.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Нічога сабе, сэрвіс!

Ці часта нам жыццё дорыць радасныя хвіліны? Мабыць, што не…

Але вось і мы трапілі ў пестуны лёсу: атрымаў наш горад аж 10 новых аўтобусаў. Але чамусьці ў аўтапарку вырашылі карыстацца новымі "рэчамі", не здымаючы ўпакоўку, і выпусцілі аўтобусы на вуліцы горада з поліэтыленавай плёнкай на сядзеннях. Праз тыдзень-два яна, натуральна, пачала абвісаць неахайнымі лахманамі, і навюткія прыгожыя аўтобусы набылі звычны падраны, нецікавы выгляд.

Не, не падоўжаць гэтыя 2-3 тыдні тэрміну выкарыстання абіўкі, а добрае ўражанне ад паездкі ў новым аўтобусе скамечана. Свята не атрымалася…

Так і лезуць у галаву словы горкаўскага персанажа Саціна:" Эх, дурань, песню сапсаваў!"

Яшчэ адзін сюрпрыз ад аўтапарка атрымалі пасажыры ў выглядзе з`яўлення так званых "хуткасных" аўтобусаў. Прыходзяць яны па раскладу звычайных, так што хочаш - едзь, а хочаш - чакай з мора пагоды. На пытанне: "Якім чынам дасягаецца хуткасць, за якую мы плацім удвая?"- кан-дуктарка патлумачыла, што зменшана колькасць прыпынкаў. Але ж, напрыклад, на маршрутах "адзінкі" і "сямёркі" зліквідаваны толькі адзін прыпынак: ля рэстарана "Бярэзіна". Такім чынам, таго, хто едзе ў бок вакзала, але выходзіць раней, гэта ніяк не кранае; хто едзе да вакзала - эканоміць літаральна хвіліну-дзве; а вось таму, хто сабраўся ў раён вуліцы Ленінскай, зусім прыкра: заплаці 120 р. і тупай цэлы прыпынак пехатою. Нічога сабе сэрвіс!

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Развітанне

Хутка чакаецца знікненне дробных купюр у адзін і пяць беларускіх рублёў. Выдаткі на друк такіх купюр перавышаюць іх намінальную вартасць. Адпаведна, будуць акругленыя і кошты ў крамах.

## Нас болей

Сёлета на Барысаўшчыне нарадзілася за 9 месяцаў на 47 немаўлят болей, чым за той жа час мінулага года.Прыемная навіна!



# Непатрэбны будынак



Калі каму давялося быць у раёне завода "Барбытхім", што знаходзіцца па вуліцы Савецкай, 14, той не мог не звярнуць увагу на вялікі змрочны будынак на супрацьлеглым баку вуліцы. Няцяжка вызначыць і яго пры-значэнне. Сапраўды, гэта школа, дакладней – былая школа №4.

Выбітыя шыбы, абсыпаны тынк, друз і смецце вакол. Сам будынак 1936 года. Школа зачыніла свае дзверы ў 1991 годзе.

Былы дырэктар гэтай школы Васькоўскі П.Р. гаворыць, што ў апошнія гады сваёй працы ўстанова выглядала добра, ды й шмат было зроблена для гэтага.

Цяпер жа толькі невялічкая фірма "Біяпрыбор" знайшла тут сабе месца.

Думаецца, каб выратаваць бу-дынак, трэба выканкаму прадаць яго або проста перадаць у добрыя рукі з умовай прывесці пабудову ў належны стан.

*М.Пучыла*

# Шлях ужо небезыменны

1 кастрычніка споўнілася паўгода, як прыступіў да сваіх абавязкаў абраны барысаўцамі дэпутат Палаты прадстаўнікоў В.Гумінскі. Сярод прыхільнікаў дэпутата - многія жыхары Лядзішчаў і мікрараёна ля танкавага завода. Бо сярод іншых прыемных абяцанкаў быў у праграме гэтага тады яшчэ кандыдата адзін пункцік: пра рэканструкцыю дарогі між танкавым заводам і мікраёнам "Энка". Лёгкаверныя выбаршчыкі адразу пачалі чакаць пачатку працы на дарозе. Але праляцела лета, бяжыць восень, а ніякіх зрухаў пакуль не назіраецца. Штож, абяцанага тры гады чакаюць… Затое гэты брудны, калдобісты шлях ужо небезыменны – сярод лядзішчанскага народу ён атрымаў гучную назву: "дарога імя Гумінскага".

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Выбух

26 верасня ў 15 гадзін ля вёскі Малыя Негнавічы прагрымеў выбух. Спецыялістамі з Менску была падарвана авіябомба вагой 50 кг, якую вывернуў з зямлі трактар аднаго з калгаснікаў калгаса "Лошніца". Бомба знаходзілася ў такім дрэнным стане, што яе нельга было куды-небудзь вывозіць. На шчасце, людзі, якія працавалі ў полі, не пацярпелі ад гэтага страшнага "падарунка" далёкай вайны.





Тут сартуюць нашыя лісты і газеты

# Служба добрай надзеі

Гісторыі колькіх адносін склаліся шчасліва або трагічна ў залежнасці ад атрыманай у свой час вестачкі, колькі надзей і важных спраў мы даваяраем службе, якая працуе дзеля суаднося людзей паміж сабою. 9 кастрычніка ў свеце адзначалася 127-я гадавіна заснавання Сусветнага паштовага саюза.

Пошта нашага горада прапаноўвае жыхарам не толькі традыцыйныя паштовыя паслугі, але і з'яўляецца месцам, дзе можна зрабіць процьму іншых карысных спраў: заплаціць за камунальныя паслугі, атрымаць пенсію, зрабіць ксеракопію, набыць неабходныя ў гаспадарцы тавары і нават прыдбаць добрую абнову. Апошнім часам паштавікі прапаноўваюць і новыя сучасныя паслугі: дастаўку адраснай і бязадраснай рэкламы, перавозку пасылак у спрошчанай упакоўцы, паслугі "Міжнароднай паскоранай пошты", "Экспрэс-пошты", факсавую сувязь. Можна пасласць і атрымаць паведамленне па электроннай пошце, кошты на паслугі якой у тры разы ніжэйшыя чым у прыватных фірмах.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Пачатак рэканструкцыі



У скверы па вуліцы Дзяржынскага рабочыя УП "Жылле" спіла-валі старыя дрэвы, якія былі ўжо напалову засохлыя і пагражалі людзям і лініям электрапе-радач. У арганізацыі нам паведамілі, што гэта і ёсць пачатак рэканструкцыі сквера. Мяркуецца, што пасля таго, як рабочыя прыбяруць старыя дрэвы, тут будуць пасаджаны новыя. Прыняць удзел па добра-ўладкаванні сквера ўжо вызвалася экалагічная аргані-зацыя СШ №1.

Такім чынам, рэканструкцыя гэ-тага зялёнага кутка горада, якая плана-валася яшчэ ў 1995 годзе, пачалася цяпер, напярэдадні юбілею горада.

*М.Пучыла*



# "Я – беларус! Я нарадзіўся на гэтай казачнай зямлі, Дзе між лясоў і пушчаў дзіўных ад веку прашчуры жылі."



Такія словы прагучалі 17 кастрычніка ў актавай зале ДК прадпрыемства "Барысаўдрэў". Маладых бацькоў, Панамаровых Людмілу і Зміцера, ва ўрачыстых абставінах павіншавалі з нара-джэннем сына Дзяніса, які з`явіўся на свет так удала, што стаў тысячным немаўляткам, народжаным у Барысаве ў 2001 годзе. Пасля ўручэння пасведчання аб нараджэнні ў гонар Дзяніса была выканана песня: "Я – беларус!". Маладых бацькоў, працаўнікоў "Барысаўдрэва" павіншаваў генеральны дырэктар прадпрыемства і падараваў кветкі і пральную машыну.

Дзеткі садка № 29 і ансамбль народнай песні ДК "Барысаўдрэў" далі цэлы канцэрт, які прыйшоўся да сэрца бацькам, бабулі і дзядулі нованароджанага, а таксама шматлікім гасцям, якія сабраліся на ўрачыстасць. Адзін толькі Дзяніс не зразумеў, героем якой падзеі ён з`явіўся, але выступоўцы адзначылі, што жыццёвы шлях хлопчыка, які пачаўся так урачыста, абавязкова будзе шчаслівым і надалей.

Хай вырасце Дзяніс сапраўдным беларусам!

*Служба інфармацыі "ГБ"*



# Бульба – другі хлеб

У былыя часы штогод увосень вялікія сілы школьнікаў, студэнтаў, навучэнцаў тэхнікумаў і ПТВ здымаліся з заняткаў і кідаліся на ўборку бульбы. Зараз жа выкопванне земляных пладоў здзяйсняецца больш спакойна. Але дзе-нідзе і сёлета для яе збірання прыцягваюцца навучэнцы з розных навучальных устаноў Барысава.

*Навучэнцы групы П221 Барысаўскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа за зборкай бульбы ў калгасе "Бродаўка"*





# Патрэбны чалавек

У школе разнастайная работа дарослых пастаянна адбываецца на вачах дзяцей. Яна станоўча ўплывае на іх выхаванне, у школьнікаў фарміруюцца ўяўленні аб ёй, яе грамадскай значнасці.

У сярэдняй школе № 13 больш 7 гадоў працуе Ліфанцій Логвінавіч Фёдараў.

Дырэктар школы Людміла Іванаўна Гарнак адзначае:

- Ліфанцій Логвінавіч працалюбівы чалавек, ён здольны захапіцца любой справай, якую яму даводзіцца выконваць, а ў школе спраў хоць адбаўляй. Ён не баіцца ніякіх працоўных намаганняў, наадварот, шукае іх. Яму цікава не тое, што даецца лёгка, звыкла, а тое, што натхняе, робіць працу захапляльнай. У школе ён выконвае абавязкі, якія ў поўнай меры адпавядаюць яго схільнасцям, зацікаўленням. Ён рамантуе ўсё: сталы, шафы, класныя дошкі…Можа давесці да ладу любы замок, кран, вентыль. Прычым акуратна, надзейна. Ліфанцій Логвінавіч чалавек добры, шчодры, душэўны, безадмоўны.

Ён валодае многімі сакрэтамі сталярнай, слясарнай справы. Імкнецца, каб рэч не толькі надзейна служыла, але і цешыла вока.Гэта незвычайны чалавек, які ўсё робіць, каб прыносіць карысць людзям.

Дзеці яго вельмі любяць, називаюць за яго работай, дапамагаюць яму. А ён ім гаворыць: "Вучыцеся, у жыцці спа-трэбіцца".

*С. Смольская*

# "Беларускіх" класаў усё меней

"Беларускія" класы яшчэ ёсць у школах горада, але хутка па-за межамі другой гімназіі іх не стане. Магчыма, сёлетні год для іх апошні, бо ў асноўным гэта дзевятыя класы, выпускныя. І хоць з'явілася "асцярожнае" распараджэнне загадчыка аддзела адукацыі аб аднаўленні "беларускай" працы ў школах і, нават, вывучэнні магчымасці стварэння новых класаў з беларускай мовай выкладання, па вялікаму кошту, у школах на гэта глядзяць скептычна. Усяго ж па гораду на сённяшні час навучаецца па-беларуску каля 4,8% школьнікаў.

Асцярожнасць настаўнікаў і бацькоў у "беларускім" пытанні тлумачыцца тым, што і дагэтуль нацыянальнае пытанне дзяржавы ў лепшы бок не змянілася. Улады не ідуць нават на патрабаванне грамадскасці аб адкрыцці вышэйшай навучальнай беларускамоўнай установы.

*М.Пучыла*

**Колькасць школьнікаў, што навучаюцца ў Барысаве па-беларуску (без уліку гімназіі № 2)**




**Колькасць па школах тых, хто навучаецца па-беларуску**




# Куфар жыцця

Так назвалі фальклорны монаспектакль паводле твораў Караткевіча, які быў паказаны 9 кастрычніка ў Карсакавіцкім СДК. Аўтар пастаноўкі – паэтка з Барысаўшчыны Вера Буланда, выканаўцы – фальклорны калектыў Карсакавіцкай сярэдняй школы і калектыў "Прыданкі" з Глівінскіх Навасёлак.

***

Другога лістапада мяркуецца адкрыццё тэатральнага сезона ў тэатры "Відарыс". Да ўвагі гледачоў прапануецца камедыя Я.Касцюкоўскага і М.Слабадского "Піфагор". Аўтары шырокавядомы як сцэнарысты такіх камедый, як "Каўказская паланянка", "Аперацыя Ы і іншыя прыгоды Шурыка", "Брыльянтавая рука".

***

12 кастрычніка ў гарадскім Палацы культуры адбыліся гастролі маскоўскага цырка звяроў. Гледачы змаглі пабачыць супольныя выступленні як прафесійных акцёраў, так і іх чацвераногіх памагатых. Напрыканцы выступлення гледачы маглі сфатаграфавацца з рознымі звярыма і атрымаць невялікія падарункі.

***

У Белгарадскай вобласці (Расія) адбыўся Міжнародны фестываль славянскай культуры "Хотмыжская восень". Нашу рэспубліку на ім годна прадставілі нашы землякі – народны фальклорны ансамбль "Лаўнічанка".

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Дробязь, але настрой сапсуе

Часта бывае, што нейкая дробязь можа сапсаваць настрой чалавеку на цэлы дзень. Горш таго, гэтыя "дробязі" сустракаюцца досыць часта.

Нядаўна давялося пабываць на нашым аўтавакзале. Дык вось, ад наведвання запомніліся толькі ўваходныя дзверы гэтай установы. Ім, відаць, столькі ж год, колькі і самаму будынку. Трымаюцца яны на танкавых тросах. І зусім не хочуць адчыняцца. А таму, хто іх адчыняе, пагражаюць непрыемнасці: або цябе нехта стукае дзвярыма, або ты кагосьці "ўзнагародзіш".

Падумалася, а які настрой у адміністрацыі вакзала?

*М.Пучыла*



# Катлаван

У мэтах лепшага забеспячэння гараджан пітной вадой праціягваецца рэканструкцыя Лядзішчанскага водазабора. З 5 кастрычніка пачалося будаўніцтва яго другой чаргі. Работы праводзіцца будаўнічым трэстам № 21 на вуліцы Дняпроўскай насупраць дома 53, амаль што пад яго вокнамі. Такая непасрэдная блізкасць глабальнага будаўніцтва да жытла людзей стварыла шмат праблем як жыхарам, так і будаўнікам. Жыхары дома засталіся практычна без двара, а ў вокны кожны дзень урываецца грукат і смурод ад працуючай тэхнікі. .

Гэта быў адзін з самых утульных куткоў мікраёна. Месца тут хапала ўсім. Гаспадыні сушылі бялізну між стваловў хваін, малыя дзеткі і сабачкі бегалі па траўцы, а большыя хлапчукі з раніцы да вечара ганялі мяч на футбольным полі, на якім яны сваімі намаганнямі паставілі брамы і праводзілі тут многа гадоў запар сяброўскія матчы. Яны і аказаліся самымі пакрыўджанымі. Другой ахвярай будаўніцтва сталіся чатыры стромкія хвоі, якія мелі няшчасце расці на месцы будучага катлавана.

З першых дзён у мікраёне з'явіліся нейкія мсціўцы. Яны па начах выломлівалі цэлыя пралёты высокага неахайнага плота, якім было агароджана месца будучага катлавана, білі вокны ў бытоўцы будаўнікоў і нават выбілі пярэдняе шкло ў кабіне экскаватара. Будаўнікі таксама змагаліся за месца пад сонцам. Кожную раніцу спецыяльна вылучаны рабочы рамантаваў плот, дзеля асвятлення тэрыторыі па начах на хвою каля бытоўкі павесілі пражэктар.

Сумная гісторыя. Нельга апраўдваць маленькіх варвараў. Але вось чаму ў нас так вядзецца, што дзеля вялікай, агульнагрмадскай справы абавязкова трэба пераехаць цяжкім бульдозерам цераз інтарэсы самых безабаронных істот: раслін, жывёл, дзяцей.

*Е.Граковіч*







*Гімназія№2 (зверху)*

*Сямікласнікі - народ жыццярадасны (злева)*

*Дырэктар гімназіі Васькоўскі Пётр Рыгоравіч (знізу)*

# Гімназіі № 2 ўжо 10 год!

*Час ляціць. І вось ужо 10 год споўнілася "беларускай" гімназіі нашага горада. Гэта ўстанова адметная. Сваёй дзейнасцю яна здолела даказаць, што нашы людзі не баяцца роднай мовы, бо і сёння тут навучаецца каля 900 дзетак, што беларускай мовай магчыма адольваць навуку і дасягаць высокіх вынікаў.*

*Але давайце паслухаем самога дырэктара Васькоўскага Пятра Рыгоравіча, які згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта "Гомана Барысаўшчыны"*

**Калі і як пачыналася праца па стварэнні беларускай гімназіі ў горадзе?**

Праца па стварэнні гімназіі пачыналася з пачаткам будаўніцтва новай школы па вуліцы Палявой у 1990 годзе. Першы беларускамоўны клас быў адкрыты яшчэ ў СШ № 4 у 1989 годзе. Настаўніцай гэтага класа была Сергіевіч Тамара Канстанцінаўна. Пад той час справа гэта была новаю, як па стварэнні гімназіі, так і па адкрыцці беларускамоўнай установы. Трэба было ўсіх пераканаць (і бацькоў, і вучняў, і настаўнікаў) у неабходнасці гэтай справы. Але набраліся настаўнікі – аднадумцы, знайшліся падручнікі і справа паціху пайшла.

**А маглі б вы вызначыць станоўчыя этапы на 10-гадовым шляху развіцця установы?**

Першы этап – 1991 – 93 годы - стварэнне педагагічнага калектыву, здольнага выканаць задачы, якія стаяць перад гімназіяй, пранікнуцца ідэяй Адраджэння.

Другі этап – 1993 – 1996 годы – стварэнне канкурэнтаздольнай навучальнай установы, здольнай падрыхтоўваць вучняўда правільнага выбару далейшага жыцця ў хутказмяняльным складаным асяроддзі.

Трэці этап – 1997 год – доказ жыццяздольнасці і паспяховасці развіцця ўстановы падчас Дзяржаўнай атэстацыі.

Чацвёрты этап – з 1997 года – павышэнне якасці работы па ўсіх накірунках, стварэнне ўмоў для навучання і выхавання сучаснага маладога чалавека.

**Раскажыце пра вашы дасягненні.**

За дзесяць гадоў зроблена нямала. Самае галоўнае, што нашы выпускнікі знаходзяць свой шлях у жыцці: паступаюць пераважна ў ВНУ, ССНУ. Але самае галоўнае, у іх заўсёды ёсць імкненне да адукацыі. Улічваючы тое, што апошнія гады адсутнічае конкурсны адбор у гімназію, мы ў цэлым задаволены вынікамі алімпіяд, творчасцю нашых выхаванцаў. Ёсць і выдатныя вынікі: так вучань нашай гімназіі Дзмітрый Канаковіч з'яўляўся бронзавым і сярэбраным прызёрам сусветных алімпіяд па хіміі. Расце творчы патэнцыял настаўнікаў.

**Назавіце лепшых педагогаў, гонар гімназіі.**

Гонар беларускай гімназіі - яе лепшыя настаўнікі, якія сваёй творчаю працаю даказалі гэта. Хачу назваць настаўніцу хіміі Гірыну А.М., настаўніцу геаграфіі Гайдук Н.І., настаўніцу матэматыкі Сакалоўскую Г.М., настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Акуліч В.І., Кулакоўскую Т.Я., Навіцкую А.В., настаўнікаў рускай мовы і літаратуры Дубаву Т.В., Мяркулаву А.А., Крэмень Л.П., настаўнікаў замежных моў Конахаву А.Н., Палескую Л.П., Карпека Л.П., настаўнікаў пачатковай школы Грыб А.М, Ермаловіч Л.Ф., Супрановіч Н.У., Скурат А.В. і многіх, многіх іншых.

**Шчыра дзякую за размову. Рэдакцыя газеты жадае калектыву гімназіі творчых набыткаў у справе падрыхтоўкі маладых грамадзян Беларусі.**

*Гутарку вёў М.Пучыла*





*За кулісамі (зверху)*

*Маленькія спявачкі вітаюць сваіх матуль беларускай песняй (справа)*

*Настаўнікі гімназіі – яе гонар (знізу)*




# Аб працаўладкаванні выпускнікоў школ г.Барысава 2001 года

У 2001 годзе сярэднія школы горада скончылі 1317 выпускнікоў. Залатыя медалі атрымалі 40 выпускнікоў, сярэбраныя – 43.

З 83 медалістаў 73 паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, 4 – у сярэднія спецыяльныя ўстановы, 1 – у профтэхвучэльні, 5 – не працаўладкаваны.

477 выпускнікоў паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы (35,8 %), гэта на 3,5 % больш, чым у мінулым годзе. З іх 23 чалавекі (2,6 %) паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы педпрофілю, 20 чалавек (1,5 %) – медпрофілю, 11 чалавек (0,8 %) – сельгаспрофілю.

255 выпускнікоў (19,5 %) паступілі ў сярэднія спецыяльныя ўстановы, гэта на 2,3% больш, чым у мінулым годзе. З іх 23 чалавекі (1,7 %) паступілі ў сярэднія ўстановы педпрофілю, 53 чалавекі (4 %) – медпрофілю, 22 чалавекі (1,7 %) – сельгаспрофілю.

205 выпускнікоў (15,5 %) паступілі ў профтэхвучэльні (гэта на ўзроўні мінулага года).

147 выпускнікоў (7 %) вучацца на курсах.

108 выпускнікоў (7,2 %) працуюць.

78 выпускнікоў выбылі за межы горада.

47 выпускнікоў(12,9 %) не працаўладкаваны (гэта на 3,1 % ніжэй узроўню мінулага года).

*Згодна матэрыялаў савета аддзела адукацыі горада.*

*Перадаў М.Пучыла*

**P.S.** Інфармацыя аб працаўладкаванні выпускнікоў 9-ых класаў будзе ў наступным нумары.






Барысаўскі раён (злева) і план яго анклава ў Бярэзінскім раёне (знізу)

Рэшткі пабудоў і платоў былой вёскі Калінаўка



# Анклаў Барысаўшчыны ў Бярэзінскім раёне

*Калі вы ўважліва паглядзіце на адміністрацыйную карту Беларусі, то заўважыце, што ў межах Бярэзінскага раёна існуе невялічкі кавалак тэрыторыі, які адносіцца да Барысаўскага раёна.*

Чаму так здарылася і чым гэта было абумоўлена, зараз сказаць цяжка. Прытым, такая з'ява на Беларусі адзінкавая. Нідзе болей адзін раён не мае свайго анклава ў межах іншага.

У анклаве раней была вёска, якая мела назву Калінаўка. Ужо прайшоў не адзін год, як яна перастала існаваць. Яе жыхары пераехалі ў навакольныя вёскі. На месцы ж былога пасялення засталіся парахнець гаспадарчыя будынкі. Яшчэ добра бачны абрысы былых вуліц вёскі. Дзе - нідзе засталіся рэшткі студняў, фрагменты былых платоў, паўздзічэлыя садовыя дрэвы.

Цяжкія ўражанні застаюцца пасля наведвання гэтай мёртвай вёскі. Магчыма, што разам з ёй знікне і анклаў Барысаўшчыны ў Бярэзінскім раёне.

*А.Барэвіч*

# Пакаленне next. Якія мы?

Не звяртаючы ніякай увагі на шэрае, змрочнае надвор'е, спяшаюцца кудысьці людзі з парасонамі, цяжкімі партфелямі і рукзакамі, шлёпаючы па мутных лужынах, ідзе ў школу падрастаючае пакаленне. Усе такія аднолькавыя, але ў той жа час зусім розныя. У кожнага свае жаданні і думкі, мары і сны, праблемы і клопаты. Аб'ядноўвае іх тое, што ўсе яны народжаны, каб жыць, каб тварыць і прыносіць у жыццё штосьці новае, каб захоўваць, берагчы тую бясцэнную спадчыну, якую пакінулі продкі.

Я, тыповы прадстаўнік новага пакалення, часта назіраю за сваімі сучаснікамі, і міжвольна да мяне прыходзяць думкі аб тым, што мы нямногім адрозніваемся ад папярэдніх пакаленняў. Але ў цяперашняй моладзі ёсць нешта ўласцівае толькі нам. Міжволі ўзнікаюць думкі аб нейкай асаблівай ролі, пэўнай задачы. А ўсё таму, што іменна нам пашанцавала жыць на стыку тысячагоддзяў. Цяжка ўявіць: падобнае людзі змогуць пражыць толькі праз дзесятак сотняў гадоў. Па – мойму, на плечы цяперашняга пакалення кладзецца цяжкі, але так неабходны духоўны груз. На моладзі асаблівая адказнасць за тое, каб чалавецтва змагло дастойна прыняць эстафету эпох, не ўпала маральна і духоўна.

Гляджу на маладых людзей і спрабую зразумець: ці задумваўся хто – небудзь з іх на хвіліну над тым, што ён – гэта будучае. Ці думаў над пытаннем: што залежыць ад яго, каб потым (хай нават і не хутка) яму не было сорамна перад нашчадкамі. Каб гэта зразумець, трэба зазірнуць ва ўнутраны свет чалавека, даведацца, чым ён жыве, аб чым думае, чаго чакае ад жыцця.

Вось, напрыклад, гэты хлопец з тоўстым пачкам пад пахам, які спяшаецца на заняткі, які імкнецца атрымаць як мага болей ведаў. Зараз ён, напэўна, марыць найхутчэй закончыць школу, паступіць у прэстыжны універсітэт, атрымаць адукацыю, каб потым працаваць на карысць Бацькаўшчыны, спасцігаючы патаемныя загадкі навукі і тэхнікі.

А ў вачах гэтай маладой асобы ў боціках на высокіх абцасах і кароценькім кажушку, нягледзячы на яе некалькі бяспечны выгляд, гарыць агеньчык любові да мастацтва і музыкі. Сапраўды, у яе руках футляр са скрыпкай. Дзесьці ў глыбіні душы гэтай дзяўчыны, вядома ж, цепліцца надзея падарыць свету свой музыкальны шэдэўр. Вось хлапец, што напрамкі ідзе па лужынах. Ён глядзіць у неба і, хутчэй усяго, марыць аб нечым узвышаным.

Маладых людзей з падобнымі поглядамі і жыццёвай пазіцыяй сярод нас нямала. Шкада толькі, што ў процівагу гэтаму ёсць мноства адмоўных прыкладаў. На жаль, я сустракаю і абсалютна пустыя позіркі, у якіх няма нічога, акрамя абыякавасці і злабы. Як бы мне хацелася, каб яны як мага хутчэй зразумелі, што адзіным следам пасля іх жыцця будзе невялікая каменная пліта з дзвюма датамі і працяжнікам між імі.

Так, мы пакаленне next. І нам ёсць над чым паразважаць, зазглянуўшы ва ўнутраны свет акаляючых нас людзей і, перш за ўсё, у свой уласны. Так, у кожнага з нас таксама ёсць у душы прабелы, якія абавязкова трэба запоўніць. Як добра было б, каб кожны гэта разумеў ці хаця б імкнуўся зразумець.

Новае пакаленне! Помні, мы – будучыня! Усё ў нашых руках. Толькі мы павінны зрабіць так, каб чалавецтва магло мець асалоду ад свайго існавання.

*А.Савіна*

# Даёш супермаркет!

Большасць людзей у краінах нават з сярэднім дастаткам робяць будзённыя закупкі ў супермаркетах. Ад звычайных крамаў яны адрозніваюцца не толькі сваімі памерамі і вялікай разнастайнасцю тавараў, але і нізкімі коштамі на іх. Іх перавагі ўжо змаглі ацаніць нашы грамадзяне, каму давялося быць у Польшчы, Літве ці іншых краінах. На Беларусі на сённяшні час няма ніводнай гандлёвай кропкі, якая б адпавядала ўсім крытэрыям супермаркета. Але рана ці позна гэта будзе.

Чаму б Барысаву не стаць першым горадам з супермаркетам і не зрабіць гэта да 900-годдзя горада?

*Я.Юроўскі*

# Першае ўражанне

Калі чалавек трапляе ў невядомае месца, то адно з першых па чым складваецца ўражанне аб горадзе або краі – гэта афармленне шыльдаў і іншых вонкавых надпісаў. Што ж можна ўбачыць у Барысаве. Яны, за рэдкім выключэннем рускамоўныя. Менавіта такая пераважная большасць новых гандлёвых кропак, амаль усе надпісы на грамадска важных аб'ектах. Аднак ёсць і прыемныя выключэнні. Так, напрыклад, новыя аўтобусныя прыпынкі па раёну і па гораду афармляюцца з беларускамоўнымі подпісамі іх назваў. Пабеларуску робяцца таксама подпісы і на транспарце МУС. Ёсць асобныя і іншыя прыклады. Але ўсё гэта варта лічыць хутчэй выключэннямі ў агульным рускамоўным патоку "вулічнай" інфармацыі.

Пра гэту праблему ўжо не адзін раз шмат што казалася. Аднак вырашаць яе ніхто не спяшаецца.

*В Стэфановіч*

# Падзяка

*Медработнікам кардыялагічнага аддзялення № 1 Барысаўскай Цэнтральнай раённай бальніцы*

За Вас маліцца буду Богу,
Што поруч Вы з дабром ішлі,
Каб Вам жыццёвую дарогу
Гасподзь прадоўжыў на зямлі.

Вам дзякую ізноў і зноў я,
Што Вы мяне лячылі ўсім:
Таблеткай, вадкасцю, і словам,
І светлым позіркам сваім.

Яшчэ Вам дзякую за лекі,
За душ крыштальных прыгажосць,
Што тут і мы, вайны калекі,
Успаміналі маладосць.

* * *

*Медыкам кардыялагічнага аддзялення № 2 Барысаўскай Цэнтральнай раённай бальніцы*

Вас Бог Святы благаславіў,
Каб аблягчаць людскія мукі,
Усім станоўчым надзяліў
І залатыя даў Вам рукі.

Я буду дзякаваць заўжды
І зычыць Вам бярэмак долі,
Каб Вы не ведалі бяды
І з ёй не стрэліся ніколі.

Жадаю Вам лятаць у сне
Заўжды ў блакітным паднябессі,
Усё жыццё, як па вясне,
Квітнець фіялкамі на ўзлессі.

Хай з Вамі разам мір ідзе
Пад гукі песні салаўінай,
Да шчасця хай гасподзь вядзе
Жыццёвай Вашай калінай.

Яшчэ мой дзякуй і яшчэ
Вы, медработнікі, прыміце.
Няхай Ваш лёс Вам шчасце тчэ,
У Божай радасці жывіце.

*Дзмітрый Самойленка*

# Ён у складзе экскорту суправаджаў Джавахарлала Нэру

Мой стрыечны брат Іосіф Мітрафанавіч Шустоўскі (3.02.1925 – 9.05.1990) нарадзіўся ў вёсцы Маячная Барысаўскага раёна. Пасля дэмабілізацыі з войска ў кастрычніку 1950 года ўладкаваўся неўзабаве на працу ў Крупскае ДАІ дзяржаўтаінспектарам, меў чын сяржанта.

З'яўляючыся спартоўцам – матацыклістам ад МУС БССР шмат разоў удзельнічаў ва ўсесаюзных і рэспубліканскіх спаборніцтвах па матагонках, за што быў узнагароджаны каля 10 граматамі. У 1955 годзе ён уваходзіў у экскорт матацыклістаў, які суправаджаў па Маскве высокага індыйскага госця, прэм'ер – міністра Індыі Джавахарлала Нэру. Пра гэты факт і па сённяшні памятаюць некаторыя нашы сваякі, бо тады Іосіф Мітрафанавіч сам распавядаў ім пра ўдзел у той ганаровай місіі.

У 1959 годзе па сямейных абставінах пераехаў на сталае месца жыхарства ў вёску Неманіца Барысаўскага раёна. У выніку шлюбу ён бацька чатырох дзяцей. Працаваў у Барысаве і шафёрам, і аўтаслесарам, і лінейным і галоўным аўтамеханікам.

Да ўсяго вышэйсказанага трэба дадаць, што як непасрэдны ўдзельнік Вялікай Айчыннай вайны з 1944 па 1945 год І.М.Шустоўскі ганараваны ордэнам Славы III ступені (ад 1.12.1944г.),медалямі "За перамогу над Нямеччынай" (ад 9.05.1945 г.) і "30 год Савецкай Арміі і Флота" (ад 22.02.1948 г.). У баі з нямецка – фашысцкімі агрэсарамі быў лёгка паранены (21.02.1945 г.). Так адзначана ў вайсковым білеце.

Але нішто не вечна пад месяцам... Толькі гераічныя ўчынкі ды добрыя справы асобных людзей застаюцца ў памяці народнай.

*А.Шустоўскі*



# Дзе нашы ласі?

*Барысаўшчына з даўніх часоў была адметна сваімі лясамі, у якіх было шмат рознах жывёлін. Аб гэтым сведчаць шматлікія старыя дакументы, што захаваліся да нашага часу. Яшчэ параўнальна нядаўна – напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзя ў Геаграфічным слоўніку (ён выдаваўся ў Варшаве на польскай мове і ў алфавітным парадку распавядаў пра населеныя пункты былой Рэчы Паспалітай) у прыватнасці, там, дзе гаворка ішла пра Забашавічы, адзначалася, што ў лясах, якія іх акружаюць, дужа шмат ласёў , мядзведзяў і іншых жывёлін.*

Дзе ж іх "нашчадкі" зараз? Мядзведзі ў нашым краі жывуць толькі ў межах запаведніка і месцамі ў непасрэдным яго наваколлі. Ласі яшчэ дзе-нідзе ёсць, але іх мала. Усё знішчылі людзі.

Немалую ролю ў гэтым адыграла высечка лясоў. Яна ж шалёнымі тэмпамі працягваецца і зараз. Прытым нярэдка яна робіцца без уліку патрабаванняў, што мусяць забяспечыць найменшы ўплыў на жывёльны свет. Так, для існавання любога віду неабходна пэўная плошча. Калі лясоў становіцца недастаткова, від вымірае. Для гэтага не абавязкова, нават рабіць суцэльную высечку лесу. Часта бывае дастаткова падзяліць за кошт прамысловай распрацоўкі адзін лес на дзве часткі, кожная з якіх будзе меней крытычнай для віду плошчы. Просека ў такім лесе можа стаць непераадольнай для лясных жывёлін. Шырыня "непераадолення" для кожнай жывёліны розная.

Прыкладам такой высечкі можа быць тая, што рабілася нядаўна пры пракладцы газапровада. У дадзеным выпадку вынішчэнне лесу можа мець хоць нейкае тлумачэнне. Але нядаўняя вялікая высечка лесу і падзяленне яго на асобныя часткі каля Бытчы ніякім здаровым сэнсам патлумачана быць не можа. Гэта варта было б кваліфікаваць як злачынства.

У свеце шмат прыкладаў, калі пасля вынішчэння лясоў гінулі і цывілізацыі, што рабілі гэта. Няўжо нам не дастаткова чужых прыкладаў? Ці мы жадаем вучыцца толькі на сваіх памылках? Кажуць, што лясоў у нас яшчэ шмат і праблема гэта для нас не актуальная. Але калі будзе знішчана апошняе дрэва і гэта праблема стане відавочнай, пра яе гаварыць будзе ўжо позна.

***В.Стэфановіч***



# Экалагічны тэрарызм

Дзеянні асобных прыхільнікаў адпачынку на прыродзе па сваіх наступствах болей нагадваюць стыхійнае бедства або паход варвараў на Рымскую імперыю, чым прагу яднання са сваім натуральным наваколлем. Іх учынкі, магчыма, больш правільна было б кваліфікаваць як экалагічны тэрарызм.

У наваколлях Барысава шмат прыгожых месцаў, дзе са задавальненням бавяць свой вольны час шмат хто з жыхароў горада. Асабліва прыдатныя для гэтых мэтаў землі абапал Бярэзіны. У летнюю спёку яны пераўтвараюцца ў самыя "заселеныя" куткі нашага краю. Гэта натуральна, і добра, што ў нас маецца такая магчымасць.

Паміж Барысавам і Дудзінкай у пойме Бярэзіны нямала прыгожых месцаў. На адным з іх на паляне сярод волатаў – дубоў асабліва зручна спыняцца. На жаль, хтосьці тут свой "адпачынак" суправаджае спальваннем дубоў. Вогнішчы распальваюцца прама ўнутры жывых дрэваў. Ад аднага са старых дубоў засталіся толькі вуглі ад яго каранёў. Другі дуб унутры ўжо спалены, але яшчэ трымаецца. На жаль, такое дзікунства характэрна не толькі для гэтага месца. Што гэта, калі не экалагічны тэрарызм?



Чалавек з'яўляецца часткай экасістэмы. Калі яе вынішчаюць, гэта абавязкова ў большай або меншай меры мае адбітак і на ім самім. Рана ці позна наступствы такіх і іншых бяздумных уздзеянняў чалавека на экасістэму могуць прывесці да неабарачальных наступстваў, якія наўпрост адгукнуцца і на нас. Іншае пытанне, дзе тая мяжа.

Апошнім часам шмат гаворыцца пра міжнародны тэрарызм і неабходнасць рашучай барацьбы з ім. Ці не надышоў час звярнуць увагу на тэрарызм экалагічны і на неабходнасць правядзення захадаў супраць яго носьбітаў?

***В.Стэфановіч***

# Рэчка Бродня

Барысаўшчына знаходзіцца каля водараздзелу рэк. Таму большасць з тутэйшых водных артэрый невялікія. Адна з такіх рэк – Бродня ўпадае ў Бярэзіну каля Вялікага Стахава.

Пачынаецца Бродня ў двух кіламетрах ад вёскі Прысынак Смалявіцкага раёна. Мае даўжыню 33 кіламетры, плошчу водазабору – 214 квадратных кіламетраў. Сярэднягадавы расход вады ў вусці каля 1,4 кубічных метры ў секунду. Сярэдні нахіл воднай паверхні 0,8%.

# Пакуль маем не цэнім

Той, хто пакідаў на нейкі час родную Барысаўшчыну, ведае, як вабяць, як завуць да сябе яе лясы і лугі, ціхая Бярэзіна са старыцамі, упрыгожанымі лілеямі, са светлымі барамі на стромкіх берагах; і нават яе балоты ўспамінаюцца з замілаваннем. Нам сапраўды пашчасціла жыць у прыгожым, лірычным краі. Але як мала мы думаем пра захаванне яго непаўторнай прыгажосці.

Мы выпускаем у паветра прамысловы смурод, а ад яго сохнуць дрэвы, мы грукацім цягнікамі і машынамі, а ад гэтага грукату кідаюць пладзіцца птушкі і звяры, мы ірвем ахапкамі ландышы і пралескі і цягнем у свае гарадскія норы, хаця можна проста палюбавацца імі і пайсці далей.

Але мы аматары назіраць за паміраючымі ў вазах раслінамі, мы любім адпачываць на "прыродзе" і пакідаць за сабой рознае смецце. У сваім імкненні да высокіх ураджаяў мы сыплем у глебу безліч хімічных угнаенняў, атручваючы ўсё навокал. І разам з тым мы хочам жыць у здаровым і разнастайным асяроддзі, марым, каб нашы дзеці раслі неабыякавымі і чулымі, каб яны дыхалі чыстым паветрам і хадзілі па прыгожай зямлі.

Любіць, ведаць і абараняць ад згубы навакольны свет – гэта адзіны шлях абараніць ад фізічных хвароб і душэўнай пустэчы сябе, сваіх дзяцей і ўнукаў.

***Е.Граковіч***

# Будзе новы парк

Усе барысаўцы ведаюць цэнтральны парк імя Горкага. Але мала хто ведае аб тым, што некалькі гадоў таму пачалася закладка парка ў раёне завода агрэгатаў. Былі закладзены дзве алеі: Цэнтральная і алея Маці. У парку планавалася размясціць стадыён, яхт-клуб, кафетэрый, разарый, атракцыён "альпійскія горкі" і шмат чаго яшчэ.

Але ў 1997 годзе работы спыніліся. Рукой вандала адбіта шыльда на камені алеі Маці, паламана большасць дрэў, начамі парасцягвалі бардзюры. Унікальны парк гіне.

Добра, што да юбілею горада работы ў парку рашылі аднавіць.

***Я.Рэут, А.Малчанаў, юнкоры***

# Скапа

*Мы распачынаем серыю артыкулаў пра тыя віды раслін, птушак і жывёл, якія пакуль існуюць побач з намі, але знаходзяцца на мяжы знішчэння. Сёння пагаворым пра дзіўную птушку-рыбалова – скапу.*

Сведка паляўнічтва скапы за рыбай расказвае: "Вакол белабела. Толькі дзе-нідзе сярод нагрувашчванняў ільду цямнеюць палонкі. Над імі, у вышыні, раскінуўшы метровыя крылы, лунае белагрудая птушка, а на ледзяным полі плавае яе цень. Скапа рыбачыць. Яна ўважліва ўглядаецца. Заўважыўшы ахвяру, скапа на імгненне замірае і тут жа імкліва, каменем, кідаецца ўніз. Ля самай вады птушка выцягвае лапы. Усплеск! Засланіўшы сябе каскадам ледзяных пырскаў, яна імгненна ўзлятае ў вышыню. У кіпцюрах выгінаецца і ззяе срэбрам буйная рыба. "Скапа мух не ловіць!" – жартуюць рыбаловы".

Скапа не мае блізкіх родзічаў. Яна складае адначасова адно сямейства, адзін род і адзін від. Але раней яе можна было ўбачыць на агромністых абшарах усей планеты. Скапа селіцца па берагах марскіх і прэснаводных вадаёмаў з празрыстай вадой і вялікай колькасцю рыбы. Чым менш чыстых вадаёмаў, тым радзей сустракаецца гэтая птушка.

Па памерах скапа трохі меней за звычайнага гуся, але ў адрозненне ад апошняга, гэта зграбная, з даўгімі, вострымі крыламі і кароткім хвастом птушка. Зверху чорная, унізе чыста-белая, а на грудзях - пасачка або пляма буравата колеру. Моцныя лапы цёмнашэрыя ці зеленавата-шэрыя, вочы жоўтыя. Жорсткае пер'е шчыльна прылягае да цела. Вага птушкі – каля двух кілаграмаў, але ў захапленні паляваннем яна



можа напасці на рыбіну вагой 4-5 кг, хаця падняць яе не заўсёды здолее. Такія выпадкі для птушкі - трагічныя. Кіпцюры глыбока ўваходзяць у спіну рыбы, і скапа разам з рыбай трапляе пад ваду і гіне.

Зіму скапа праводзіць у Афрыцы альбо Індыі, зрэдку на Каспіі. Ранняй вясной, яшчэ да таго, як сыдзе снег, яна прылятае на радзіму. У нас яна селіцца амаль выключна ў балотных сасонніках. Некалькі пар гэтых птушак жывуць каля возера Пялік. Адна сям'я селіцца не бліжэй за кіламетр ад другой. Скапа будуе гняздо дыяметрам каля метра звычайна на высокіх дрэвах з паламанай вярхушкай. Адкладае ў яго 2-3 яйцы і наседжвае 35 дзён.

Гаспадарчая дзейнасць на вадаёмах, іх забруджванне, а таксама актыўная высечка высокіх дрэў не дазваляюць птушцы вольна карміцца і размнажацца. Усё глыбей хаваецца ад чалавека гэтая ганарлівая, прывабная птушка, якую сто год назад можна было ўбачыць амаль на кожнай рыбнай рацэ ці возеры.

***Е.Граковіч***

*Чалавек па сваёй прыродзе намагаецца найбольш даведацца пра тое, што яго акружае. Часта гэта цікавасць пераўвараецца ў глыбокія веды і, калі гэта магчыма, калекцыяніраванне прадметаў сваёй зацікаўленасці. Што толькі не збіраюць людзі. Гэта маркі і манеты, розныя цэтлікі і білеты, музычныя інструменты і лыжкі ды шмат што яшчэ. Калекцыі нярэдка без слоў могуць шмат чаго паведаміць аб былых часах, краінах, прычым больш дакладна за многія манаграфіі.*

*Адным з відаў калекцыяніравання з'яўляецца фалерыстыка – калекцыяніраванне значкоў. Прыхільнікам баўлення вольнага часу за зборам, вывучэннем і сістэматызацыяй сваіх металічных і пластмасавых "каштоўнасцей" ёсць што распавесці і пра Барысаўшчыну.*



# Барысаўшчына ў фалерыстыцы

Усяго за ўвесь час убачыла свет больш за 60 розных значкоў, якія прысвечаны Барысаву, Барысаўшчыне, або тым ці іншым чынам звязаны з імі. Усіх іх можна падзяліць на чатыры групы. Першая група – значкі, што прысвечаны Барысаву і падзеям, што адбываліся ў ім. Іх было выраблена 12 тыпаў. Самы стары з іх, адначасова і самы стары з "тутэйшых" значкоў наогул, убачыў свет у 1956 годзе (№ 1 - гл. фота) і быў прысвечаны раённаму фестывалю моладзі, які, як і паўсюль па былому СССР, праходзіў напярэдадні сусветнага фестывалю. Пасля таго амаль 20 год значкі, якія б былі прысвечаны Барысаўшчыне, не вырабляліся. На пачатку 70-х быў выпушчаны ўдалы, на погляд спецыялістаў, значок, які быў прысвечаны нашаму гораду. Яго аўтарам быў барысаўскі мастак С.Мірзаян. Большасць значкоў, што прысвечаны Барысаву, выпускаліся або да яго юбілею (гэта серыя з трох значкоў, што была прысвечана яго 875 - годдзю; № 10 - 12), або па ініцыятыве турыстычных агенцтваў (№ 6 і інш.).

Другая група значкоў аб'ядноўвае тыя, што нагадваюць аб падзеях у Барысаўскім раёне (іх усяго тры). На дзіва, падзеі 1812 года на Бярэзіне застаюцца зусім нераспрацаванай на значках тэмай. Выключэнне складае значок "Брылі, 1812" (№ 49).

Трэцяя, найбольш пашыраная група значкоў, - гэта значкі, якія прысвечаны барысаўскім прадпрыемствам і ўстановам, або тыя, што выдадзены па ініцыятыве грамадскіх арганізацый. Большасць з іх датычацца розных юбілеяў. Найбольшая колькасць значкоў – шэсць - звязана з заводам БАТЭ (№ 13 - 18). Маюць значкі БВА "Экран" (№ 19 - 21), заводы Аўтагідраўзмацняльнік (№ 24 - 26), Гідраапаратуры (№ 28 - 29), Барыфорг (№ 30), Крыштальны завод (№ 32), Танкавы завод (№ 39), Паліміз (№ 31), завод пласмасавых вырабаў (№ 54), гуматэхнічных вырабаў (№ 22), медпрэпаратаў (№ 47), Аўтарэмзавод (№ 35), фабрыка Піяніна (№ 44), Барысаўмакаронпрам (№ 27), Запалкавая фабрыка (№ 40), рэдакцыя афіцыйнай тутэйшай газеты – тады яшчэ "Камуністычная праца" (№ 37 - 38), супрацьпажарная служба (№ 23, аўтар Г.Новік) і Прамгандаль (№ 33 - 34). Сярод навучальных устаноў след аб сабе на значках пакінулі сярэдняя школа № 7 (№ 36) і ПТВ 202 (№ 43). Пакінуў аб сабе памяць і турыстычны клуб (№ 41 - 42). Два значкі выпусціла асветніцкае таварыства "Святло Меноры" (№ 46, 48).

Да чацвёртай групы "тутэйшых" значкоў могуць быць аднесены тыя, у назве якіх маецца слова "барысаўскі", "барысаўская" або "Бярэзіна" (№ 45, 52 - 53). Гэта значкі, якія звязаны з вайсковымі злучэннямі, што носяць імя нашага горада.

Не абышлося пры выпрабленні "тутэйшых" значкоў без недарэчнасцей. Так, на значку, што быў прысвечаны 90-годдзю запалкавай фабрыкі, у адным са слоў была зроблена памылка. Замест слова "фабрыцы" было набрана "фабрицы" (№ 40). А на партыі значкоў, якія былі выпушчаны да 100-годдзя завода гідраапаратуры, пры ўказанні колькасці год завода замест 100 было ўказана 10 (№ 28а).

***А.Барэвіч***

***P.S.** Пры падрыхтоўцы матэрыялу выкарыстана калекцыя значкоў з фондаў Барысаўскага аб'яднанага музея, якая налічвае 60 відаў значкоў.*





























## *Спіс значкоў, якія маюць дачыненне да Барысаўшчыны*

**1** - *значок, які быў выраблены ў 1956 годзе і прысвечаны раённаму фестывалю моладзі ў рамках падрыхтоўкі да сусветнага фестывалю моладзі;*

**2-8** - *значкі, што прысвечаны Барысаву;*

**9** - *значок, які ўшаноўвае памяць экіпажа Паўла Рака;*

**10-12** - *група з трох значкоў, якія прысвячаліся 875 - годдзю Барысава, што святкавалася ў 1977 годзе;*

**13-18** - *значкі, якія прысвечаны юбілеям завода БАТЭ (***13** *- 20-годдзю,* **14** *- 25-годдзю,* **15** *- 30-годдзю) або звязаны з ім;*

**19-21** - *значкі, якія прысвечаны вытворчаму аб'яднанню "Экран" (***19** *- яго 10-годдзю,* **20** *- яго 25-годдзю);*

**22** - *значок, які прысвечаны 30-годдзю завода гуматэхнічных вырабаў;*

**23** - *значок, што прысвечаны 125-годдзю пажарнай службы Барысава;*

**24 - 26** - *значкі, якія прысвечаны заводу "Аўтагідраўзмацняльнік" (***24** *- яго 5-годдзю,* **26** *- яго 10-годдзю);*

**27** - *значок, які прысвечаны вытворчаму аб'яднанню "Барысаўмакаронпрам";*

**28 - 29** - *значкі, якія прысвечаны заводу гідраапаратуры (***28** *- яго 100-годдзю;* **28а** *- бракаваны варыянт значка да стагоддзя завода, на якім замест 100 год памылкова ўказана 10);*

**30** - *значок, які прысвечаны заводу Барыфорг;*

**31** - *значок, які прысвечаны 30-годдзю завода Паліміз;*

**32** - *значок, які прысвечаны 75-годдзю Барысаўскага шклозавода (крыштальнага завода);*

**33** - *значок барысаўскага прамгандлю;*

**34** - *значок, які прысвечаны барысаўскаму універмагу "Мір" (зараз - гандлёвы дом);*

**35** - *значок, які прысвечаны 25-годдзю барысаўскага аўтарамонтнага завода;*

**36** - *значок, які прысвечаны 50-годдзю барысаўскай сярэдняй школы № 7;*

**37-38** - *значкі, якія прысвечаны газеце "Камуністычная праца" (зараз "Адзінства";* **37** *- яе 50-годдзю,* **38** *- яе 70-годдзю);*

**39** - *значок, які прысвечаны 30-годдзю вайсковай часткі 63760 (танкаваму заводу);*

**40** - *значок, які прысвечаны 90-годдзю запалкавай фабрыкі. У адным з яго слоў дапушчана дзве памылкі;*

**41-42** *значкі, якія прысвечаны барысаўскаму турыстычнаму клубу (***41** *- яго 10-годдзю);*

**43** - *значок, які прысвечаны 60-годдзю барысаўскага ПТВ 202;*

**44** - *значок, які прысвечаны 50-годдзю барысаўскай фабрыкі піяніна;*

**45** - *значок, які прысвечаны вайсковым вучэнням, што праходзілі на Бярэзіне ў наваколлях Барысава;*

**46** -*значок, які выраблены па ініцыятыве культурна - асветніцкага таварыства "Святло Меноры" і ўшаноўвае памяць 9000 яўрэяў, якія былі расстраляны пад Барысавам 9 лістапада 1941 года;*

**47** - *значок, які прысвечаны заводу медпрэпаратаў;*

**48** - *значок, які выраблены па ініцыятыве тутэйшага культурна - асветніцкага таварыства "Святло Меноры";*

**49** - *значок, які прысвечаны падзеям 1812 года, якія адбываліся пры пераправе французаў праз Бярэзіну ў раёне Студзёнкі і Брылёў;*

**50-51** - *значкі, якія прысвечаны партызанскаму руху ў раёне возера Пялік (***50** *- выраблены да 30-годдзя вызвалення Беларусі,* **51** *- да 40-годдзя вызвалення Беларусі);*

**52** - *значок, які прысвечаны ветэранам 174-й Барысаўскай стралковай дывізіі;*

**53** - *значок, які прысвечаны 125-му Барысаўскаму гвардзейскаму палку;*

**54** - *значок, які прысвечаны 15-і годдзю завода пласмасавых вырабаў.*




*Прыведзены пералік значкоў, якія звязаны з Барысаўшчынай, не з'яўляецца поўным*

# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 30 за 1996 - 2001 гг.)*

У сакавіку 1813 года каля 500 параненых рускага войска, якія вылечыліся, былі накіраваны на фронт. Частка палонных французаў была пераведзена ў Полацак. Аднак яшчэ шмат што ў горадзе нагадвала аб мінулых падзеях. На базарнай плошчы і ў іншых месцах Барысава можна было ўбачыць трафейныя гарматы, павозкі і фургоны. Шмат дзе валяліся каскі, ранцы і іншыя вайсковыя прылады. На пачатку 1813 года на Барысаўшчыну прыязджаў менскі губернатар Ігнацьеў, які на месцы знаёміўся з наступствамі вайны. Па яго загаду была сабрана вялікая колькасць раскіданай зброі і вайсковай амуніцыі, пасля чаго іх некалькі дзён адвозілі шматлікімі падводамі ў Менск і Маскву.

На працягу 1813 года праз наш горад не раз праходзілі рускія войскі. Вясной 1813 года ў Барысаў зноў прыбыў першы сапёрны батальён, якім кіраваў падпалкоўнік Сазонаў. Ім у красавіку была арганізавана адбудова прадмостных умацаванняў. Для гэтай мэты было дадаткова задзейнічана каля 1500 палонных французаў. Акрамя таго, выконваліся працы па добраўпарадкаванню горада, брукаванню яго вуліц. У траўні 1813 года быў адбудаваны мост праз Бярэзіну.

У выніку падзеяў 1812 года насельніцтва Барысава скарацілася ўдвая. Усе лепшыя дамы былі спалены. Адзіны мураваны будынак - будынак магістрата, які ўцалеў за час вайны, згарэў 11 снежня 1812 года. Жабрацтву людзей спрыялі і новыя паборы на вайсковыя патрэбы, што былі ўведзены з прыходам рускага войска. Вясной 1813 года сеяць не было чаго, што яшчэ больш пагоршыла становішча. Для аднаўлення края ўрадам Расіі тутэйшым жыхарам былі нададзены пэўныя льготы. Але яшчэ шмат год прайшло, перш чым наша зямля змагла адрадзіцца.

Летам 1813 года каля Студзёнкі была праведзена расчыстка рэчышча Бярэзіны. З яе дасталі вялікую колькасць гармат, экіпажаў, срэбра, золата, іншых каштоўных (і не толькі) рэчаў. У далейшым не раз у гэтых месцах знаходзілі вайсковыя прылады з той вайны. Яшчэ і зараз дзе-нідзе ад тых, хто цікавіцца тагачаснымі падзеямі, можна пачуць распowяды пра французскія скарбы, што знаходзяцца ў нашай зямлі з 1812 года. Прытым не толькі ў раёне былой пераправы, але і ў іншых кутках нашага краю. Час ад часу гэтыя чуткі пацвярджаюцца цікавымі знаходкамі.



*Будынак, які быў узведзены пасля вайны 1812 года на частцы падмурка былога магістрата*

На перадмостных умацаваннях Барысава да 1814 года знаходзіўся невялікі атрад з адным оберафіцэрам. Атрад ахоўваў розныя вайсковыя прыпасы, што былі зроблены ў падземных казармах умацаванняў. Пасля таго, як у 1814 годзе прыпасы былі адтуль забраны, ахова была знята. Услед за гэтым падземныя збудаванні былі хутка расцягнуты тутэйшымі жыхарамі на будаўнічыя матэрыялы. Неўзабаве "батарэі" сталі зарастаць сасновым лесам, і ўжо праз 30 год там мала што нагадвала аб былых бурных падзеях.

У 1816 годзе ў сувязі з недахопам будынкаў з Барысава ў Халопенічы была часова перанесена павятовая школа. Там яна знаходзілася да 1831 года.

*(Працяг будзе)*
***М.Мацельскі***

# Карані з Барысаўшчыны

*Сёлета ў газеце "Крупскі веснік" быў надрукаваны ліст жыхара вёскі Высокае Свярдлоўскай вобласці Сцяпана Галадкова, продкі якога на пачатку XX стагоддзя пакінулі Барысаўшчыну. Паколькі звесткі, што ўтрымліваюцца ў лісце, могуць уяўляць цікавасць для пэўнай часткі тутэйшых жыхароў, перадрукоўваем яго з нязначнымі скарачэннямі.*

У выніку сталыпінскай рэформы, якая здзяйснялася ў Расіі ў 1906-13 гадах, пачалося масавае перасяленне сялян з тэрыторыі заходніх губерняў ва ўсходнія. У сувязі з гэтым у Слабода – Турынскім раёне Свярдлоўскай вобласці (на той час гэта быў Цюменскі павет Табольскай губерні) узнікла некалькі пасяленняў беларускіх сялян, у тым ліку вёскі: Высокае, Гарадзішча, Лявачкіна, Круглова, Плесунова. Вёскі Высокае і Гарадзішча ўзніклі з перасяленцаў Менскай губерні Барысаўскага павета з вёсак: Сялец, Каршавіца (Карсакавічы), Барань і навакольных хутароў. Прыехалі адтуль сяляне з прозвішчамі: Галадок, Галубец, Мядзвецкі, Дабрынскі, Майсюк, Кланюк, Швайбовіч, Чычын, а таксама з вёсак Дуброўка (Дуброва – ГБ), Майсееўшчына і навакольных хутароў з прозвішчамі:Магонь, Харняк, Горань, Лапцінскія, Голень, Ліцвінавы, Кісялёвы, Мінальтавы, Гаспадаравы, Дук, Кульгавыя.

Прайшло пасля перасялення больш за 90 год. За гэты час змяніліся тры пакаленні, прайшло шмат лёсавызначальных гістарычных падзеяў. Да нашага часу нашчадкі з указаных прозвішчаў рассяліліся па гарадах і вёсках Свярдлоўскай і Цюменскай абласцей, абрусіліся. Прозвішчы ў большасці перабудаваліся на рускі лад. Магонь – Магоневы, Харняк – Харняковы, Галадок – Галадковы, Дук – Дуковы, Галадок – Галадковы, Галубец – Галубцовы, Голень – Голеневы або Голены.

Мне здаецца, што знойдуцца людзі, для якіх цікава будзе даведацца пра пэўныя звесткі, можа нават аб сваіх далёкіх родзічах, якія з'ехалі з Беларусі ў тыя, не такія далёкія часы. Звесткі аб іх я ў свой час запісаў з успамінаў сваіх бабуль: Агаф'і Паўлаўны Галадок (дзявочае прозвішча Чычына), якая нарадзілася ў вёсцы Сялец Барысаўскага павета і Магонь Ганны Майсееўны (дзявочае прозвішча Слабуха), родам з вёскі Фралоўка Траянаўскай воласці.

Трошкі аб сабе. Я, Галадкоў Сцяпан Антонавіч, нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Высокае, скончыў Цюменскі педінстытут, працаваў настаўнікам гісторыі ў Слабода-турынскім раёне, займаюся краязнаўствам. Мой прадзед Прохар Галадок, які нарадзіўся ў вёсцы Сялец Барысаўскага павета, выехаў з Беларусі ў 1907 годзе з трыма жанатымі сынамі: Філіпам, Дзям'янам, Іванам. Мой дзед па мацярынскай лініі Магонь Фёдар Васільевіч нарадзіўся ў вёсцы Дуброўка (Дуброва – ГБ) у 1876 годзе.

У каго з'явілася цікаўнасць да зместу майго ліста, можна напісаць па адрасу: **623937, с. Краснослободское, Слободо-туринского р-на, Свердловской области, Голодкову Степану Антоновичу.**

# Дзяды

Дзяды – спрадвечны народны памінальны абрад. Ён існуе на Беларусі яшчэ з дахрысціянскіх часоў. У праваслаўных беларусаў Дзяды дзяліліся на зімовыя (Масленыя), веснавыя (Радаўніца), летнія (на Тройцу) і восеньскія (Зміграўскія або Стаўроўскія). Пры гэтым усе памінальныя дні, акрамя Радаўніцы, адзначаліся па суботах. У католікаў галоўнымі былі Асяніны, каторыя супадалі са святам Усіх святых 1 лістапада. Праваслаўныя Зміграўскія Дзяды, якія адзначаліся ў суботу перад Змітравым днём, таксама выпадалі прыблізна ў той самы час, што і каталіцкія Асяніны: у канцы кастрычніка ці ў першых днях лістапада.

З дахрысціянскіх абрадаў у народзе захаваўся звычай ладзіць на Дзяды рытуальную вячэру ў сям'і. Усе сваякі збіраліся ў гэты дзень у роднай хаце. На стол ставілася мноства страваў, у тым ліку абавязковыя рытуальныя, напрыклад, крупяная куцця. Колькасць страў павінна быць няпарная. У асобную пасудзіну адкладалі патрохі кожнай стравы, налівалі чарку гарэлкі для дзядоў. Пры запаленых свечках успаміналі цёплым словам нябожчыкаў. Пасля ўсяго рытуалу госці гаварылі: "Святыя дзяды! Елі і пілі, ідзіце да сабе!".

З прыняццем хрысціянства абрад Дзядоў паступова трансфармаваўся. Сёння прынята ў гэты дзень маліцца ў царкве за душы памерлых. А далей абавязкова належыць наведаць могілкі, дзе пахаваныя родзічы. Перад гэтым стараюцца прыбраць магілы нябожчыкаў, пасадзіць на іх восеньскія кветкі, хрызантэмы ці міхалкі, або пакласці прыгожую вязанку ці вянок. І абавязкова запальваюцца ў памяць памерлых свечкі.

Пасля сямідзесяцігадовага ігнаравання бальшавікамі народных абрадаў і звычаяў, у тым ліку і Дзядоў, у Беларусі ў апошнім дзесяцігоддзі наглядаецца працэс адраджэння забытых традыцый. Пры гэтым старое свята памерлых змяняе свой характар. З чыста сямейнага яно пераўтвараецца ў агульнае, грамадскае. Людзі ўспамінаюць у часе яго ўжо не толькі сваіх родзічаў. Яны выходзяць на шэсці і мітынгі, каб аддаць пашану памяці тых, хто адышоў ад нас не сваёй смерцю, тых, хто загінуў ад рук чырвоных катаў, чые косці ляжаць у Курапатах, на Салаўках ці Калыме і яшчэ шмат-шмат дзе. Памяць нашых продкаў жывіць сэрцы свядомых беларусаў у іх барацьбе за волю і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, за лепшую будучыню нашага народа.

***Л.Кароль***

# 60 год трагедыі

Сёлета на пачатку верасня ўвесь свет ускалыхнулі трагічныя падзеі ў Амерыцы, у выніку якіх загінула больш за пяць тысяч чалавек. 20 кастрычніка (па іншых звестках 9 лістапада) спаўняецца 60 год з моманту адной з найбольш трагічных тутэйшых падзей - вынішчэння барысаўскага гета. У выніку жыцця была пазбаўлена амаль удвая большая колькасць людзей – каля дзевяці тысяч.

На поўначы Барысава на месцы расстрэлу яўрэяў у 1947 годзе была ўсталявана стэла. Аднак яна не адлюстроўвала нацыянальны характар трагедыі. Таму да 50-годдзя тых жудасных падзей культурна – асветніцкам таварыствам "Святло Меноры" была ўсталявана адметная шыльда. На жаль, час яе не стаў доўгім. Яе хтосьці адарваў і знёс. Магчыма, метал, з якога яна была зроблена, для кагосьці больш важная рэч, чым памяць аб 9000 суграмадзянах. Калі б нешта падобнае адбылося ў Злучаных Штатах Амерыкі на месцы ўшанавання памяці тых, хто загінуў ад тэрарыстычных актаў, памяркуйце, як бы адрэагавалі тамтэйшыя людзі? А як адрэагавала наша грамадства?

***А.Барэвіч***









*Помнік, які быў усталяваны каля месца расстрэлу ў 1947 годзе (злева)*

*Месца, дзе адбываўся расстрэл вязняў барысаўскага гета (справа). Выдзелены сучасны стан і першапачатковы выгляд мемарыяльнага знака з шыльдай, якія былі ўсталяваны таварыствам "Святло Меноры"*

# Кастрычнік

Кастрычнік - апошні месяц вегетацыі большасці раслін. Назава, паходзіць, відаць, ад кастрыцы – адраўнелай часткі лёну. У сярэдзіне месяца вышыня сонца над гарызонтам апоўдні 27,6°С. У параўнанні з верасам тэмпература паветра паніжаецца на 5-6°С і ў сярэднім складае 5-7,5°С. Максімум яе дасягае 28°С (Гомель, 1966). У асобныя вельмі халодныя гады тэмпература паветра паніжаецца да -20°С. Ідуць працяглыя імжыстыя дажджы. У першай палове кастрычніка па ўсёй тэрыторыі рэспублікі бываюць замаразкі. У выключных выпадках здараюцца навальніцы і нават назіралася вясёлка. З кожным днём усё больш астывае зямля. Сярэднемесячная тэмпература вады рэк і азёр каля 6-8°с. Колькасць дзён з ападкамі – 12-17. З-за частых дажджоў амаль на ўсіх рэках Беларусі бываюць паводкі з вялікім пад'ёмам вады. У 1974 годзе на малых рэках Брэстчыны яе ўзровень павысіўся на 170, а ў Мухаўцы – на 280 см. Рэкі Лясная, Рыта, Ясельда, Піна, Гарынь выйшлі з берагоў і затапілі значныя плошчы. Такія катастрафічныя паводкі здараюцца прыкладна раз у 100 гадоў. Адносная вільготнасць паветра ў кастрычніку складае 82-86%.

***Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць.***

***Кастрычнік ні каляса, ні палаза не любіць.***

***У кастрычніку хата з дрывамі і мужык з лапцямі.***

***Жураўлі ляцяць высока – зіма яшчэ далёка.***

У кастрычніку заканчваецца поўнае афарбаванне лісця дубу, бярозы, агаляецца клён вастраліст. Пасля ападання лісця пачынаецца рассяванне насення і пладоў. У полі і на лузе можна ўбачыць кветкі асенняга лаганцу, баркуну, лекавага дзьмухаўца, непахучага рамонку. Заканчваецца ўборка садавіны і позніх сартоў капусты, падрыхтоўка садоў да зімы.

Адлятаюць у выраі пеўчыя і чорныя дразды, берасцянкі., аўсянкі, гракі і шпакі. З больш паўночных раёнаў на зімоўку прылятаюць гілі, амялушкі, чачоткі, крыжадзюбы, шэрыя вароны. Рыхтуюцца да зімы лясныя звяры. У рэках і азёрах у глыбокія месцы збіраецца рыба: акуні, плоткі, карпы, карасі, яршы.

Працягваецца збор некаторых лекавых раслін: карэнішчаў аеру звычайнага, падалешніку еўрапейскага, птушкавага і змяінага драсеню, карэнішчаў і каранёў лекавага дзягілю, дзівасілу, лекавага крываснюку, каранёў лапуху вялікага, лекавага жывакосту, дзьмухаўца, насення горкага каштану, пладоў ядлоўцу, журавін, карычнай і сабачай шыпшыны, рабіны звычайнай. Пачынаецца збор шышак шэрай і клейкай вольхі, сцяблоў і лісця белай амялы.

"Абраныя яблыкі і ігрушы няхай ляжаць у свіране ў кучы да маразоў, а потым, паабціраўшы кожнае, каб былі сухія, кладзіце ў пограбе па аднаму на паліцы".

У кастрычніку з гародаў і ў садах сабраны ўвесь ураджай. Але працы яшчэ шмат – ідзе падрыхтоўка да зімы.

З першых дзён месяца садзяць чаранкі парэчак, насенне яблыкаў, ігруш, вішні, слівы. З восені мэтазгодна пабяліць ствалы і тоўстыя галіны пладовых дрэў. Можна зрабіць раствор па старых правілах: у вядры разводзяць 3 кілаграмы вапны, 1,5 кг гліны, 1 кг каравяку да гушчыні вадкай смятаны.

Каб атрымаць уласнае насенне, напрыклад, з добрых агуркоў, насеннікі пакідаюць на градзе да поўнага высыхання сцяблін. Затым іх трымаюць 2 тыдні ў цёплым месцы, каб даспелі. Насенне выціскаюць разам са слізззю ў шкляны посуд, ставяць таксама ў цёплае месца на 3-4 дні, каб маса перабрадзіла: пасля гэтага насенне лёгка адстае ад слізі. Затым прамыць вадой, падсушыць, адабраць лепшыя і захоўваць пры тэмпературы не ніжэй 15 градусаў цяпла.

Моркву, пятрушку, пастарнак можна захоўваць у глебе. З надыходам халадоў лісце зразаюць, вакол узрыхляюць грунт і засыпаюць расліны сухім торфам ці апілкамі слоем 8-10 см.

З усёй гародніны рэдзька стаіць на першым месцы па ўтрыманні соляў калію, магнію і кальцыю, якія спрыяюць вывaду з арганізма чалавека шкодных назапашванняў. Ёсць у ёй жалеза, фосфар.

***Перадаў М.Пучыла***



# Маёнтак у Дымках

*Кожная вуліца, як і кожны чалавек, мае свой лёс. У гісторыі адной вуліцы можа адбіцца вялікі кавалак гісторыі горада і нават дзяржавы. Лёс барысаўскай вуліцы Дымкі складаны і цікавы. На жаль, звесткі пра яе гісторыю нешматлікія і часта супярэчлівыя. Рэдакцыя звяртаецца да ўсіх зацікаўленых і асабліва да старажылаў горада з просьбай дапамагчы ў пошуку звестак пра гісторыю Дымак, якія шмат гадоў былі самастойнай вёскай, а потым сталі адной з гарадскіх вуліц.*

*Сёння мы друкуем падборку гістарычных фактаў, якія ласкава перадала нам супрацоўніца гарадскога музея Тамара Міхайлаўна Кандзідава.*

Вуліца Дымкі на карце Барысава з"явілася ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя. У 1923 годзе паводле пастановы ЦВК БССР гарадская мяжа была значна пашырана. Вёскі Дымкі, Лядзішча, хутары Лабаза і Пчэльнік сталі часткай горада.

Вёска Дымкі вядомая з 16-га стагоддзя . Жыхары вёскі займаліся выпальваннем вуглю і выганкай смалы. Дарэчы, зусім нядаўна, у 90-я гады, адзін забудоўшчык знайшоў на сваім участку рэшткі смалакурні. Ёсць думка, што менавіта такі занятак жыхароў даў назву вёсцы.

У часы Вялікага Княства Літоўскага вёска ўваходзіла ў склад Барысаўскага староства. На працягу XVII –XIX ст. знаходзілася ў валоданні князёў Радзівілаў, Агінскіх, потым князёў дома Раманавых. У канцы XIX - пачатку XX ст. Дымкамі валодалі браты Бялінскія. Па даных першага агульнага Усерасійскага перапісу (1897 г.), у вёсцы жылі 77 чалавек (32 мужчыны, 45 жанчын). 27 лютага 1900 г. паверaны ўладальнікаў сядзібы "Дымкі" братоў Бялінскіх вайскoвы інжынер палкоўнік Міхаіл Аркадзьевіч Калянкоўскі даў падпіску на дазвол аб уваходзе 14 дзесяцін 1178 сажняў у гарадскую мяжу. Гэты быў першы наступ горада на вёсачку.

Пазней, ужо ў чыне генерала, М.А.Калянкоўскі сам становіцца ўладальнікам сядзібы "Дымкі". На тым месцы, дзе цяпер разыходзяцца вуліца Дымкі і вуліца імя Р. Люксембург, ён пабудаваў двухпавярховы будынак, разбіў вакол яго парк са штучнымі сажалкамі. Дом гэты быў адным з прыгажэйшых у горадзе і з'яўляўся мясцовай славутасцю. Яго выява ёсць на паштоўках, якія друкаваліся ў барысаўскай друкарні Шэйнемана ў першае дзесяцігоддзе XX ст.

У 1919 г. тут месціўся павятовы камісарыят, і дом атрымаў назву "камісарыят Бенгера" па прозвішчу вайсковага камісара І.Л.Бенгера. Потым у розныя гады тут месціліся інтэрнат педтэхнікума і школа. Адзін са старажылаў успамінае пра тое, што ў былой сядзібе нейкі час знаходзіўся санаторый ЦК. У час Айчыннай вайны дом згарэў.

Вуліца Дымкі ў даўнія час была малазаселенай. Актыўнае будаўніцтва на ёй пачалося з 60-70- гадоў XX ст.

*Панскі будынак маёнтка ў Дымках на пачатку XX стагоддзя (зверху). Фота (як і здымак на першай старонцы) з фондаў Барысаўскага аб'яднанага музея.*



*Сучасны выгляд вуліцы Дымкі, назва якой мае паходжанне ад былой тамтэйшай вёскі.*





*Месца па вуліцы Бярэзінскай, дзе праходзіў адзін з каналаў (справа). Дрэвы каліссці былі нахілены над яго вадой. Водная сістэма маёнтка мела каналы, сажалкі з астравамі, на якіх размяшчаліся бяседкі. Некалькі дзесяцігоддзяў таму ў каналы спачатку пачалі скідваць смецце, пасля чаго яны былі зраўняны з зямлёй. Адзінае месца, дзе яшчэ прасочваюцца рэшткі воднай сістэмы - на пачатку вуліцы Чкалава (знізу). Аднак хутка будуць засыпаны і яны.*

# Літаратурны космас Мётчы

*Чым больш займаешся гісторыяй роднага краю, цікавішся традыцыямі, культурай, бытам продкаў, тым ва ўсё большай ступені разумееш, што духоўны свет народа, як космас, невычарпальны. Гэтую думку можна было б пацвярджаць многімі і многімі фактамі мінулага і сённяшняга жыцця нашай Барысаўшчыны (мы гэта робім і будзем рабіць). Цяпер жа абмяжуемся толькі згадкай пра адзін унікальны яе куток – Мядоцкі край. У нумары № 6(27) за 2001 год мы пісалі пра багацейшыя пласты песеннай і танцавальнай культуры Мётчы і яе ваколіц. У гэтым нумары мы друкуем толькі невялічкую частку створанага тамтэйшымі паэтамі.*

*Янка Лайкоў нарадзіўся 10 верасня 1979 года ў вёсцы Мётча ў сям'і настаўнікаў. Цяпер студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры (факультэт культуралогіі, аддзяленне літаратурнай работы, спецыялізацыя "драматургія"). Выдаў два зборнікі паэзіі "Акрапец павертра" і "Логіка пасткі". Прыняты ў Саюз пісьменнікаў 22 траўня 2001 года. У гэтым жа годзе прызнаны лепшым беларускім маладым пісьменнікам*



Янка Лайкоў

## Песня

Няма на зямлі ні святла, ні радасці,
ні тугі, ні адчаю…
Пойдзем, закаханая-закалыханая,
да крыніц.
Абмыю твар твой,
Рукі твае і валасы твае,
Шэптам суцішу цябе,
вымалю ў неба, у вады, у зямлі твой супакой.
Пойдзем,
каханая,
пойдзем
да крыніц.

Там спачнем ад трывог,
там гаючых траў прахалода
нас абдыме і мы акрыяем.
Каханая,
да крыніц
пойдзем?

Песню спяваю табе –
ты спіш,
рукі цалую твае –
ты спіш.
Прачынайся,
маімі песнямі закалыханая,
пойдзем травяністымі пусткамі
да крыніц,
пойдзем, там -
душ нашых неруш.

***

Дванаццаць свечак на куце,
і кожная - згарае,
а велізарны смутны цень
на хату наступае.




Вокладка зборніка Янкі Лайкова

Ратуе толькі нас агонь -
гарачы, аж балючы.
І гэты сон вякоў спакон
трываць,
трываць нас вучыць.

## Балада выгнання

...І вышыні нас прымалі за сваіх -
Нас, выгнаннікаў, аслаблых у блуканнях
На юдолях пекных, ды чужых,
На шляхах далёкіх і нязнаных.

Нас, выгнаннікаў, прымалі за сваіх
Святары і клалі спаць у храмах,
А пад раніцу будзіў нас сонны мніх,
Шчыльна зачыняў за намі браму.

І выходзілі мы зноў на біты шлях,
Нас страсалі са свайго абутку,
Сыпалі на голаў сабе прах,
Аддавалі свае душы смутку.

З паднябёсных, стромістых вышынь
Чулі мы, зямныя пілігрымы,
То маўчанне ветаха ў цішы,
То святыя, у гонар неба, гімны.

Далячыні, туманы, дымы,
Дрогкай зоркі трапяткое зззянне…
На багоў не мелі крыўды мы,
Што наканавалі нам выгнанне.

За сваіх прымаў нас новы шлях -
Нас, бялёсых тварамі і босых.
Палымнелі даляглядьі ў снах
І ў руцэ дрыжаў вандроўны посах.

***Вітаю цябе, Янка Лайкоў!***
***Сардэчна віншую з прыёмам у СП!***

Не дзівіся, Лайкоў, з Прынямонна лісту,
Не шукай белых плям у радочках.
Не са стрэльбай, з алоўкам стаю на пасту,
Як мундзір свой змяніў на сарочку.
Край Мядоцкі, дзе жыў, дзе сталеў, узрастаў,
Зараз вабіць сваімі дарамі.
Я ж да Гродні чаўном сваім ёмка прыстаў,
Тут прырос назаўжды каранямі.
Час ад часу я езджу у родны абсяг:
Там наведваю блізкіх і школу.
Свой уласны ўзрост па пажухлых лістах
Я лічу, як схіляюся долу.
Тваю "Логіку пасткі" на стыку вякоў
Я паклікаў з сабой у дарогу.
Сярод мноства імён бачыў: Янка Лайкоў
Мовай маці падзякаваў Богу.
Каб жа мог ты ў небе блакітным лятаць,
Бог табе даў бы шызыя крылы.
Толькі лепш на зямлі сваёй моцна стаяць,
Каб спіна ад натугі не ныла.
Як суняць боль пакутны ўласных грудзей,
Ты парады спытай у Максіма.
Твае вершы хвалююць мяне і людзей -
Іх запал у руцэ, поўнай сілы.
Каранёвая ж сіла - у продкаў тваіх:
У дзядоў, у бацькоў, сырадоі.
Распавесціў пра гэта ты ў вершах сваіх
І ўпрыгожыць Край кніжкаю здолеў.
Шмат хто вершы пісаў пра гаротны наш Край -
Апяваў яго горкую долю.
Ты - паэт, па зярнятку збірай каравай,
І пацешуйся лустай уволю.
Няхай вершы твае ганьбяць слоту балот,
Хай узбудзяць праз ноч беларусаў
І ў засекі нясуць навіны абмалот,
Як зляцяць з тваіх выразных вуснаў.

***З павагай да цябе***
***Браніслаў Ермашкевіч***
***28.07.2001 г.***



Браніслаў Ермашкевіч

*Браніслаў Ермашкевіч нарадзіўся 16 жніўня 1937 года на хутары Зялёнка ў сялянскай сям'і. З ранніх гадоў жыў у Мётчы, дзе закончыў сярэднюю школу. У 1956 годзе пайшоў служыць у войска, з якім была звязана значная частка яго жыцця. Па накіраванню вучыўся ў Чарапавецкім ваенным вучылішчы сувязі (закончыў з адзнакай). Потым лёс куды толькі не кідаў яго: Адэская ваенная акруга, ГДР, Слуцак, Менск, Далёкі Усход, Чукотка, Гародня. З 1982 года працуе ў школе, выкладаў АБЖ. У 60 год пачаў пісаць вершы. Выдаў зборнік "Надзённае". Друкуецца ў "ЛіМе", "Гродзенскай праўдзе", "Сельскіх навінах", "Медыцынскім весніку" і іншых выданнях. Жыве ў Гародне.*

## Мая славяначка

Беларусь мая, славяначка –
Ўсім адкрытая душа,
Беларусь мая, сяляначка –
Разнасол паўней каўша.
Зелянеюцца азімыя –
Канца й краю не відаць,
Як хачу з табой, радзімая,
Роднай мовай размаўляць.
Залаціцца спелым коласам
На палетках збажына,
І спяваю зычным голасам –
Уцяшаюся спаўна.
Колькі мной сцяжынак пройдзена,
Яшчэ больш спаткаў няўзгод.
Лепш тваіх вачэй не знойдзена,
Ды зашмат было прыгод.
Дзе б ні быў я, хлебаробную –
Ні на міг не забываў,
І ў чужбіне сваю родную
Мову-маці ўсхваляў.
Заплятаеш спелым коласам
Свой вянок над галавой,
Лепш цябе са звонкім голасам
На зямлі няма другой.

## Радзінны дом не выбіраюць

Мо, хто і здольны выбіраць
Сабе бацькоў або Радзіму,
А я – уласна назіраць
Хачу змяненні ў краіне.
А покуль, у чарговы раз,
Я вар'яцею ад інфляцый,
У будзённых клопатах паграз
Ад шматхадовых варыяцый.
Каб дасягнуць жыццёвых фарб
Працую на зямлі гадамі,
І назапашваю свой скарб
Штодзённа ўласнамі рукамі.
І мераю на свой капыл
Ўсе асабістыя змяненні.
І з твара выціраю пыл,
Спыніўшы крок свой на імгненне.

*Алесь Нінько нарадзіўся ў 1981 годзе ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС з 1989 года жыве ў вёсцы Мётча. Закончыў мясцовую школу. Першыя вершы апублікаваў у красавіку 1997 года ў газеце "Адзінства". Потым былі публікацыі ў часопісах "Першацвет", "Маладосць", газетах "Літ", "Чырвоная змена". Вучыцца на 4-м курсе філалагічнага факультэта БДУ.*

## Мётча

Між Мінскам і Масквою,
Ля бойкае дарогі,
Радамі хат вясковых
Узнёсся пад аблокі

Духмяна – свежы мёду пах,
Што аж чуваць за небакраем,
Што ўхутаў лесу плоскі дах,
Мядоцкім што завецца краем.

І падарожнік зморваны,
Працяты золкім халадком,
Хадою прыйдзе спорнаю,
Напіцца чаю каб з мядком.

***

Жыццё пралятае
Паскораным тэмпам,



Алесь Нінько

З вар'яцкім імпэтам.
А пошукі мэты –
Прыгожая казка,
Што розум расказваў
Так часта ўяўленню...
Бо пошук – не пошук,
Ўсяго толькі пошум
Апошніх мелодый
Астатніх пытанняў.
Ніколі, дазвання
У пышнасці веры
Не знойдуцца дзверы.
Маўчанне – абраза.
Чаканне адказаў –
Страшэнная кара.
Для Бога – замнога.
Для д'ябла – замала.




Вокладка зборніка Браніслава Ермашкевіча

***Старонку падрыхтаваў І.Белы***

*P.S. Па словах Уладзіміра Піліпавіча Лайкова ў школе неўзабаве адкрыецца музей "Літаратурны космас Мётчы", у якім набыткі мясцовых аўтараў у галіне мастацкай літаратуры будуць адлюстраваны ва ўсёй паўнаце*

# Спартыўны агляд

## Футбол

### БАТЭ

10 кастрычніка адбыўся матч **БАТЭ – Славія**, 3:2 (Аляшкевіч, Бяганскі, Канцавы).

Гульня была вельмі ўпартай. Кожнай з каманд патрэбны былі ачкі. Калі БАТЭ вядзе барацьбу за чэмпіёнскі тытул, то мазырская Славія захоўвае яшчэ нейкія шансы на бронзавыя ўзнагароды. Пасля гэтай гульні ў гасцей іх засталося меней. З першых хвілін мозырцы захапілі ініцыятыву. Гэтая перавага адчувалася да сярэдзіны першага тайма і была ўвасоблена ў гол, які забіў Карпуцька. Адказам кіруючага штаба барысаўчан быў выхад на поле Ганчарыка. Яго выхад пахіснуў вагі гульні ў бок гаспадароў поля. Лісоўскі на 29 хвіліне перадаў мяч Ганчарыку, які перадаў яго Бяганскаму, што знаходзіўся ў больш зручнай пазіцыі. Апошні зрабіў лік 1:1. Пазней той жа Ганчарык аддаў мяч Бяганскаму, які вывеў БАТЭ наперад. Адразу пасля пачатку другога тайма Данілюк перадаў мяч Груберу і той робіць лік 2:2. Інтрыга гульні захоўвалася да яе самага канца. Калі амаль усе палічылі, што нічога ўжо не зменіцца, пры вынасе мяча памыляецца Варывончык. Да мяча паспявае Канцавы і робіць лік 3:2.

* * *

**Мілан – БАТЭ**, 4:0 (галы ў італьянскай камандзе забілі: Руі Кошта 21; Хаві Марэна 45; Сарр 56; Інузачы 74).

Склад Мілана: Россі, Каладзе (55 Донадэль); Роке Жуніёр, Кастакурта, Сарр, Броккі (82, Аубамейянг), Данаці, Пірла, Хельвег, Хаві Марэна, Руі Кошта (61 Індзагі).

Склад БАТЭ: Федаровіч, Ганчарэнка (Цярэнцеў 77), Панасюк, Мірдас, Бача, Малаш (Бяганскі 47), Кобец, Міронічык, Лашанкоў, Аляшкевіч, Канцавы (Ганчарык 44).

Калі мы паглядзім на склады каманд у гэтай і другой гульнях, то ўбачым, што БАТЭ стала слабей. Барысаўцы страцілі дваіх лідэраў, Кутузава і Рагожкіна. Гэта стала першай прычынай няўдалай гульні нашай каманды. Другая прычына: хваляванні маладых футбалістаў. Трэцяе: стадыён "Сан – Сіра".

Прычын можна пералічыць яшчэ шмат, але ад гэтага лепей не стане.

А цяпер напрыканцы паразважаем. Лік 0:4 гэта шмат ці не? Мабыць, у самы раз. Гэта вельмі сумная рэчаіснасць, якая паказвае рэальныя суадносіны сіл беларускага і італьянскага чэмпіянатаў. Ну а БАТЭ можна сказаць дзякуй за добрую гульню ў Менску.

* * *

**БАТЭ – Белшына (Бабруйск)**, 0:1 (гол у гасцей забіў Вяжэвіч 67).

Гэта гульня, хутчэй за ўсё, вырашыла лёс залатых медалёў. БАТЭ цяпер можа дапамагчы толькі шчаслівы выпадак. Гульня ў цэлым прайшла ў роўнай барацьбе. Трэба выдзяліць намаганні Бяганскага і Ганчарыка, якія гулялі наперадзе, але ўсе іх захады былі безвыніковымі.

Пасля перапынку працягвалася ўпартая барацьба. Камана БАТЭ не разлічыла свае сілы, што ў рэшце рэшт і прывяло да гола ў іх вароты. Панасюк парушыў правілы гульні супраць Карасіка, і судзя прызначыў штрафны ўдар. Хрыпач падае ў штрафную, Федаровіч няўдала выбівае мяч, які трапляе да Вяжэвіча. Апошні накіроўвае мяч у пустыя вароты.

Далейшыя намаганні барысаўцаў зраўняць лік былі безвыніковымі.

* * *

У межах 1/8 фінала Кубка Беларусі 14 кастрычніка адбыўся матч **Тарпеда-МАЗ – БАТЭ**, 1:2 (Лісоўскі 64, Канцавы 86).

Спачатку сустрэчы ініцыятыву ў гульні захапілі гаспадары поля. Яны стварылі некалькі добрых момантаў, для рэалізацыі якіх ім не хапіла дакладнасці. Перавага Тарпеда адчувалася на працягу ўсёй першай паловы гульні. Чарговая атака гаспадароў на 34-й хвіліне была спынена не па правілах гульні. У вароты БАТЭ быў прызначаны пенальці, які паспяхова выканаў Дзенясюк. У другім тайме ініцыятыву перахапілі барысаўцы. Прыкладна ў сярэдзіне другога тайма яна прывяла да гола. На 64-й хвіліне Лісоўскі зраўняў лік. Пераможную кропку ў гульні паставіў Канцавы.

У 1/4 фінала Кубка Беларусі супернікам БАТЭ будзе Хімік з горада Светлагорска. Гульня пройдзе ў гасцях.

* * *

18 кастрычніка адбыўся матч **Нёман-Белкард (Гародня) – БАТЭ**, 4:2 (Бяганскі 20, Ганчарык 67).

Вельмі ціхая гульня. На яе пачатку склалася ўражанне, што каманды задавальняюцца нічыйным вынікам. Але гэта было толькі ўражанне. Футбалісты былі пад цяжарам адказнасці за вынік сустрэчы. На пачатку другой трэці гульні Міронічык скарыстаўся абыякавай гульнёй Нівілевіча, перахапіў мяч і аддаў яго Лісоўскаму. Той стрэліў у крыжавіну. Адказ гарадзенцаў быў больш выніковым. Сучкоў аддаў мяч Давыдаву і той зрабіў лік 1:0. Праз хвіліну Бяганскі зраўняў лік. На апошняй хвіліне гаспадары атрымалі права на штрафны ўдар, які бездакорна выканаў Давыдаў.

Пасля перапынку Батэ больш валодаў мячом. Але нёманцы гулілі больш раскаволена, што дазволіла ім забіць трэці гол. Гэта зрабіў Давыдаў. Далей БАТЭ перахапіў ініцыятыву ў свае рукі. Асабліва актыўным быў Ганчарык, які змог забіць другі гол. За некалькі хвілін да канца гульні барысаўцы збілі Цярэшчанку. Адзінаццацімятровы ўдар выканаў Давыдаў і зрабіў лік 4:2.

* * *

Віталій Кутузаў у выніку перамоў з кіраўніцтвам Мілана заключыў кантракт з гэтым клубам на пяць гадоў.

* * *

Віталій Рагожкін аддадзены ў арэнду клубу "Сіена", які выступае ў серыі "В" італьнскага першынства. Па апошніх звестках, Рагожкіным цікавіцца Фіарэнціні з Фларэнцыі, якая выступае ў мацнейшай італьянскай лізе, серыі "А".

Фота IREX/ProMedia

### Гайна

На першынстве Менскай вобласці за апошні час адбыліся наступныя матчы:

**Колас – Гайна**, 2:0;
**Гайна – Левадзія**, 6:1;
**Меліяратар – Гайна**, 6:4.
**Гайна – Камунальнік**, 5:0.

Гайна заваявала другі раз запар тытул чэмпіёна Менскай вобласці. Аднак сёлета гэта зрабіць было значна цяжэй. Лепшым галейдэрам турніра стаў Свядыш (Гайна), які забіў 30мячоў за сезон.

### Хто што мае

| Брамнікі | Г | П/М | П | У | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Федаровіч | 14 | 18 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 7 | 8 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Генадзь Мардас | 17 | - | 1 | 3 | - |
| Віталь Рагожкін | 16 | 2 | 6 | 3 | - |
| Уладзімір Нявінскі | 15 | 1 | 1 | 2 | - |
| Віктар Ганчарэнка | 11 | - | 1 | - | - |
| Дзмітры Малаш | 11 | 1 | - | - | - |
| Віталь Панасюк | 7 | - | - | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Яўген Лашанкоў | 19 | - | 3 | 1 | - |
| Аляксей Бага | 18 | 1 | - | 5 | - |
| Леанід Лагун | 13 | 4 | 4 | 1 | - |
| Сяргей Міронічык | 12 | - | - | - | - |
| Аляксандр Лісоўскі | 12 | - | 3 | 1 | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 10 | - | - | - | - |
| Аляксандр Кабец | 6 | 1 | 1 | - | - |
| Алег Аляшкевіч | 6 | 2 | 1 | - | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Арцём Ганчарык | 19 | 4 | 7 | - | - |
| Віталь Кутузаў | 18 | 14 | 9 | - | - |
| Вячаслаў Грыгараў | 18 | 2 | 1 | - | - |
| Арцём Канцавы | 18 | 7 | 2 | 1 | - |
| Павел Бяганскі | 15 | 8 | 3 | - | - |
| Уладзімір Таран | 3 | - | - | - | - |

**Г** – гульні, **П/М** – прапушчана мячоў, **З/М** – забіта мячоў, **Пс** – пасы, **П** – папярэджанні, **У** – удаленні.

### Вынікі першынства Менскай вобласці па футболу

| | Каманда | Г | П | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | **Гайна** (Барысаўскі раён) | 22 | 13 | 5 | 4 | 78:41 | 44 |
| 2. | **Бярэзінскае** (Маладз. р-н) | 22 | 14 | 2 | 6 | 65:33 | 44 |
| 3. | **Нёман** (Стоўбцы) | 22 | 12 | 4 | 6 | 46:31 | 40 |
| 4. | **Зорка** (Мар'іна Горка) | 22 | 11 | 4 | 7 | 35:28 | 37 |
| 5. | **Слуцак** | 22 | 11 | 4 | 7 | 47:41 | 37 |
| 6. | **Пліса** (Смалявічы) | 22 | 10 | 4 | 8 | 45:37 | 34 |
| 7. | **Меліяратар** (Капыль) | 22 | 9 | 5 | 9 | 49:44 | 32 |
| 8. | **Камунальнік** (Клецк) | 22 | 10 | 1 | 11 | 41:55 | 28 |
| 9. | **Лівадыя** (Дзяржынск) | 22 | 7 | 4 | 11 | 36:57 | 25 |
| 10. | **Любань** | 22 | 5 | 5 | 12 | 35:46 | 20 |
| 11. | **Колас** (Чэрвень) | 22 | 4 | 5 | 13 | 29:65 | 17 |
| 12. | **Аўтамабіліст** (Нясвіж) | 22 | 3 | 3 | 16 | 33:61 | 12 |

## Чатырохбор'е

15 кастрычніка на гарадскім стадыёне адбыліся 56-я Барысаўскія гарадскія спаборніцтвы па чатырохбор'ю сярод вучняў сярэдніх школ.

Спаборніцтвы праходзілі ў двух падгрупах. У першых падгрупах удзельнічалі школы, дзе навучаюцца менш за 1000 вучняў. Другая падгрупа ўключала ў сябе школы, дзе вучацца больш за 1000 вучняў.

Па выніках кроса ў першай групе прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам:

Першае месца – **СШ № 2**;
Другое месца – **Гімназія № 2**;
Трэцяе месца – **СШ № 17**.

У другой групе:

Першае месца – **СШ № 24**;
Другое месца – **Гімназія № 1**;
Трэцяе месца – **СШ № 7**.

Па выніках чатырохбор'я (дзяўчаты):

Першае месца – **СШ № 13**;
Другое месца – **СШ № 2**;
Трэцяе месца – **Гімназія № 3**.

У юнакоў месцы размеркаваліся наступным чынам:

Першае месца – **СШ № 9**;
Другое месца – **Гімназія № 2**;
Трэцяе месца – **СШ № 1**.

Па другой групе (дзяўчаты):

Першае месца – **СШ № 7**;
Другое месца – **СШ № 24**;
Трэцяе месца – **Гімназія № 1**.

Юнакі:

Першае месца – **СШ № 7**;
Другое месца – **СШ № 8**;
Трэцяе месца – **Гімназія № 1**.

Галоўным суддзёй спаборніцтваў была Шуляк Жана Сямёнаўна, трэнер ДЮСШ № 1.

## Турызм

У другой палове верасня праходзілі спаборніцтвы па тэхніцы пешаходнага турызму сярод школьнікаў. У спаборніцтвах удзельнічалі 18 камандаў у двух узроставых групах. На першым месцы ў малодшай групе каманда 24 СШ, на другім – 3 гімназія, на трэцім – 2 гімназія. Сярод старэйшых перамаглі турысты 23 СШ, на другім месцы – 22 СШ, на трэцім – 20 СШ. Галоўным суддзёй спаборніцтваў быў Ефіменка Уладзімір Аляксандравіч.

## Баскетбол

На жаночым першынстве Беларусі наш горад прадстаўляе каманда "Бярэзіна". Яна правяла наступныя матчы:

**Бярэзіна – ВАР (Гародня)**, 73:38;
**ВАР (Гародня) – Бярэзіна**, 40:77;
**Бярэзіна – Алімпія (Гародня)**, 83:62;
**РШВСМ-Гарызонт (Менск) – Бярэзіна**, 61:67.

Летась барысаўскія дзяўчаты занялі другое месца. Па выніках першых чатырох тураў стала зразумела, што наша каманда і ў гэтым годзе таксама будзе весці барацьбу за самыя высокія месцы.

## Пажарны спорт

У другой палове кастрычніка ў лагеры "Зубраня" прайшлі спаборніцтвы юных пажарнікаў. У іх удзельнічаліпрадстаўнікі ўсіх абласцей і горада Менска. Сталічную вобласць прадстаўлялі вучні Жодзіна і Барысава. Ад нашага горада былі школьнікі СШ № 20.

Па выніках спаборніцтва Менская вобласць заняла другое месца.

*Старонку падрыхтаваў С.Чарнуха*

# Парады ад Наталлі

Вось і кастрычнік – паўсюль бачны россыпы капусных качаноў. У гэтай немудрагелістай гародніне бялкоў амаль столькі ж. як ў мясе, а вітаміну С больш, чым у цытрыне. Багатая капуста на іншыя вітаміны, а таксама на серу, калій, кальцый. Хоць і смачная квашаная капуста, але лепш за ўсё капусту есці свежай. Тым больш, што ў апошнія гады свежую капусту можна набыць у любую пару. А каб зручна было яе натаркаваць - не паскупіцеся, прыдбайце набор сучасных тарак. З дапамогаю такой таркі нашынкаваць гародніну і прыгатаваць салату можна за 3-5 хвілін. Хай салата будзе нескладанай – проста рабіце яе кожны раз трошкі іншай і можаце падсілкоўвацца ёю хоць тры разы на дзень - гэта пойдзе толькі на карысць здароўю.

Не дадавайце ў салату з капусты шмат солі, цукру, вострых прысмакаў, алею - лепш адчуеце натуральны смак гэтай цудоўнай гародніны. Не карыстайцеся воцатам - беражыце сябе і сваіх родных!

* * *

Некалькі самых простых салатак:

Капусту можна нашынкаваць і есці без нічога, дадаўшы крышачку солі і нерафінаванага алею. У такім выпадку яе добра трошкі перацерці рукамі дзеля соку.

Нашынкуйце на буйной тарцы капусту, на дробнай - антонаўку ці другі кіслы яблык і галоўку цыбулі. Дадайце крышачку солі і цукру (па жаданню) і пару лыжак алею. Добра ўкінуць трошкі журавін. У гэтую ж салату можна дадаць морквы (цукру тады не трэба). Калі няма кіслых яблык, дадайце ў салату соку цытрыны альбо накрышыце пару памідараў.

* * *

Смачная салата атрымліваецца, калі зрабіць яе з капусты, памідараў, гуркоў, паклаўшы ўсё ў роўных долях. Дадайце зялёную ці рэпчатую цыбулю альбо крышачку часнаку, трошкі солі, алею. Гэтая салата добрая і з маянэзам, алё гэтай моднай прыправы лепш пазбягаць. Заўсёды ўтрымлівае стабілізатары і кансерванты.

* * *

Вельмі карысная для крыві салата з мелка нашынкаваных у роўнай прапорцыі капусты, буракоў, морквы. Дадаць крышачку алею і мёду. Зверху пакласці журавін або парэчак.

Заўсёды можна дадаць да капусты мелка накрышанага салодкага перцу - будзе і смачна, і прыгожа. Ніколі не перашкодзіць жменька зялёнага кропу ці пятрушкі.

Смачна есці!



# Каты – трубой хвасты

Ля пад'езда звычайнай шматпавярхоўкі ў раёне завода агрэгатаў жывуць двое кацянят – шэрае і белае. Шэрае – хлопчык, белае – дзяўчынка. Кацяняты часта б'юцца – не зразумець – ці гуляюць, ці па праўдзе. Шыпяць адзін на другога, вачыма блішчаць, хвастамі круцяць і пранізліва мяўкаюць.

Аднойчы Шэры нейкім чынам трапіў на зачынены балкон 7 паверха роднай шматпавярхоўкі. Сядзеў на пярылах і не сумаваў – глядзеў на птушак, воблакі і белае кацяня, якое было далёка ўнізе.

Раптам над ім з'явіўся клуб дыму – на балконе загарэлася нейкае смецце, у якое трапіў акурак з вышэйшага паверха.

Шэры занерваваўся, дым рабіўся ўсё больш густым. Кот на імгненне затрымаўся на краі, быццам нешта прыкінуў, і кінуўся ўніз!

Калі праўда, што каты маюць дзевяць жыццяў, адно з іх Шэры, напэўна, страціў. Сёмы паверх – не жартачкі.

Моцна даўшыся аб асфальт, ён застаўся ляжаць на месцы. Белае кацяня, што назірала скачок, падышло да яго і пачало абнюхваць, потым нават лізнула свайго "заклятага ворага".

Шэры ўздрыгнуў, падняўся на лапы і, моцна кульгаючы на ўсе чатыры нагі, пайшоў у траву. Белая пабегла за ім .

Праз некалькі гадзін Шэры трохі ачуняў і зноўку бегаў па двары. А бліжэй да вечара яны зноў пабіліся.

*С.Нялюбін*

# З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

**Як прыгатаваць яечнае мыла**

Шэсць сырых яек кладуць у сыроватку і ставяць у цяпло на дванаццаць дзён, тры разы зменьваючы сыроватку. За гэты час на іх замест шкарлупіны застанецца мяккая плеўка. На кожныя тры такія яйкі бяруць фунт простага мыла, наразаюць яго і таўкуць разам з яйкамі, пакуль яно не стане мяккім, як цеста. Тады дадаюць лыжку спірту і чацвёртую частку лота добрай салетры і зноў таўкуць, пакуль усё змяшаецца. Затым лепяць галачкі і высушваюць іх. Такое мыла асвяжае скуру і зганяе загар.

*М.Пучыла*

# Забытыя гульні

## Пошта са званком

Усе гульцы сядаюць у кола або ў рад і вадзячы пачынае гульню, кажучы: "Дзылін, дзылін!". Яго пытаюць: "Хто там?" . "Пошта" - адказвае вадзячы. "Адкуль?" - пытаюць яго. "З горада ..." (І называе якіколечы горад, прыкладна: Менск, Вільня, Бабруйск і інш.) "А што там робяць?" Вадзячы адказвае, што хоча: скачуць, пішуць, пяюць і г.д. Як толькі вадзячы кажа, што ў горадзе робіцца, усе гульцы павінны рабіць тое самае, што сказана. Гулец, які праваронiць, плаціць фант і выходзіць з гульні.

## Якуб, угадай!

Вадзячы з завязанымі вачыма сядзіць у коле, а рэшта гульцоў, узяўшыся за рукі, ходзяць навокал і пяюць або гавораць:

**Сядзі, сядзі, Якуб,**
**Пад гарэхавым кустом;**
**Грызі, грызі, Якуб,**
**Гарэхі смачныя.**
**Прыйдзе час - адгадай,**
**Вярней імя называй!**

Пасля гэтых словаў усе сядаюць на падлогу або на зямлю і вадзячы вобмацкам рук угадвае, хто перад ім сядзіць. Калі ўгадаў, то Якубам робіцца адгаданы; калі не - гульня працягваецца з тым самым Якубам.

*(Па Я.Шнаркевічу)*

Нагадваем, што кошт аднаго слова прыватнай аб'явы пры звычайным шрыфце - 40 рублёў, пры выдзяленні аб'явы - 50 руб. Рэдакцыя пакідае за сабою права друку абвестак.

Кошт 1 см² для блочнай рэкламы ў нашай газеце -120 рублёў (з падаткам на дабаўленую вартасць). Кошт 1 см² рэкламы на першай старонцы - 198 рублёў (з ПДВ).

Усе аб'явы і рэклама друкуюцца выключна па – беларуску.

**Даведкі па тэлефоне 3-94-68.**

## Прыватныя абвесткі

**Прадам**

- Аўтамабіль ГАЗ-24 пасля аварыі. Можна на запчасткі, т. 9-84-35.

ТОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ **Купон для бясплатных прыватных абвестак**

Рубрыка (куплю, прадам ці інш.) ____________________

Тэкст ____________________

Тэлефон ________ Прозвішча ____________________

Адрас ____________________

Пашпарт ______ № ____________________

*Аб'явы без тэлефона і ўказання пашпартных дадзеных не прымаюцца*

*Купон дасылайце на адрас:* ***222120, а/я 43, Барысаў-1***

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – вёска на Барысаўшчыне; 2 – брамнік БАТЭ; 3 – рэстаран у Барысаве; 4 – вёска на Барысаўшчыне; 5 – барысаўскі народны тэатр; 6 – тутэйшы футбольны клуб; 7 – былая вёска на Барысаўшчыне; 8 – абаронца БАТЭ; 9 - паўабаронца БАТЭ; 10 – вуліца ў Барысаве, былая вёска; 11 – вёска на Барысаўшчыне; 12 – вёска на Барысаўшчыне; 13 – рака на Барысаўшчыне; 14 – мікрараён Барысава; 15 - вёска на Барысаўшчыне; 16 – нападнік БАТЭ.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" № 9(30): 1 - Сха; 2 - Дзяржынскага; 3 - Вікторыя; 4 - Лісоўскі; 5 - Старабарысаў; 6 - Грыгараў; 7 - Лобач; 8 - Лашанкоў; 9 - Мацкевіч; 10 – Чапаева; 11 – Быкаў; 12 – Бярэзіна; 13 - Чыгуначнік.

## Што б гэта значыла?



## Ці ведаеце вы, што...

У **1926 – 1927** навучальным годзе ў Нова- і Стара- Барысаве працавала 11 школ, з якіх было:
беларускіх – **6**;
яўрэйскіх –**2**;
польскіх – **2**;
руская – **1**.
Сярод 11 школ было: сямігадовых – **7**, пачатковых – **4**.

У **1933 – 1934** навучальным годзе ў Барысаўскім раёне працавала 114 школ, з якіх было:
беларускіх – **105**;
яўрэйскіх – **3** (у тым ліку ў Зембіне і Чэрнеўцы);
польскіх – **3** (у тым ліку ў Лёзна);
нямецкіх – **2**;
літоўская – **1**.

*Час адпачынку*

### *Прызнанне*

*-Чаму гэта ў малака, якое Вы носіце, гэткі пах?*
*- Не ведаю, пані. Гаспадыня ўжо і ветэрынара запрашала, каб ён карову паглядзеў, толькі ён сказаў, што карова здаровая.*
*- А можа лепш было тую ваду ў студні праверыць, якую вы ў малако даліваеце?*
*- Што Вы, панічка, хто ж гэта будзе ваду са студні цягаць! Гаспадыня дадае ваду з сажалкі, дзе каноплю мочыць...*




# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**7:** 1472313, 2615793, 2712938, 4519640, 5917064, 6789155, 7269742, 7659433, 8642048;
**6:** 159342, 841340, 963107, 964204;
**5:** 17912, 18921, 21667, 21917, 24790, 24899, 25478, 25977, 27694, 34970, 38046, 41645, 43905, 46978, 48647, 61785, 64243, 64870, 68632, 68906, 70676, 71614, 73378, 74634, 76147, 76912, 81357, 84586, 85672, 89044, 91404, 94901, 97871;
**4:** 1246, 1462, 1821, 1864, 2880, 4276, 4317, 4611, 6161, 6333, 6756, 6779, 7201, 7291, 7891, 8630, 9020, 9664;
**3:** 114, 117, 164, 169, 192, 206, 254, 271, 271, 321, 333, 357, 403, 411, 444, 581, 592, 641, 673, 687, 722, 723, 734, 777, 782, 880, 900, 921, 939, 976, 987;
**2:** 10, 20, 49, 78.

# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.

**Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 9(30)**







# Конкурс для заўзятараў футбола

По выніках шасці тураў лідэрамі з'яўляюцца:

**Віктар Бойка** (БАТЭ-Юні) – 23 ачкі;
**Ігар Балаболаў** (Вікінг) – 22 ачкі;
**Сяргей Пыжык** (Жыве Беларусь) – 21 ачко;
**Сяргей Аніскевіч** (ФК "Паліміз") – 18 ачкоў;
**Сяргей Корсук** (СКН) - 18 ачкоў;
**Мікалай Камінскі** (А) – 16 ачкоў;

Нагадваем, што для ўдзелу ў конкурсе неабходна выразаць картку яго ўдзельніка з бягучага нумара газеты, запоўніць яе і даслаць ва ўказаны тэрмін на адрас газеты **(222120, Барысаў-1, а/с 43)**. Тэрмін будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

Калі вы лічыце, што пераможа першая каманда, у полі для адказу ўказваецца лічба "1". Калі, на ваш погляд, пераможа другая каманда – указваецца "2", калі нічыя – "Х". За кожны правільны адказ удзельніку конкурсу будзе нададзена па аднаму ачку. На картцы насупраць кожнага матча можа быць указаны толькі адзін вынік. Ад аднаго ўдзельніка могуць дасылацца некалькі картак з рознымі варыянтамі адказаў, але пры гэтым кожная з іх абавязкова павінна мець сваю ўмоўную назву. Для кожнай умоўнай назвы балы будуць падлічвацца асобна.

**Пераможцаў конкурсу чакаюць узнагароды.**

У шостым туры канкурсу неабходна спрагназаваць вынікі гульняў першынства Беларусі па футболу, якія адбудуцца 7 лістапада. Тэрмін падачы картак 6 лістапада.

Жадаем поспехаў!

## Картка ўдзельніка конкурсу

Сёмы тур ______

Славія - Ведрыч-97 ____ [ ]
Нафтан-Дэвон - Лакаматыў-96 ____ [ ]
Дынама (Бр) - Тарпеда МАЗ ____ [ ]
Гомель – Белшына ____ [ ]
Дынама (Мн) - БАТЭ ____ [ ]
Шахцёр – Нёман-Белкард ____ [ ]
Маладзечна - Днепр-Трансмаш ____ [ ]
Імя ____
Прозвішча ____
Умоўная назва ____
(указваць абавязкова, калі высылаецца некалькі варыянтаў адказаў ад аднаго чалавека)
Адрас ____
Тэлефон ____

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595
Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.
Рэдактар М.Мацельскі
Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1
Наклад 3000 паасобнікаў
Падпісана ў друк 17.00 23.10.2001 г.
Замова № 6620
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*